Беларуская грэка-каталіцкая газэта
кошт 500 руб.

# ЦАРКВА

№ 1
1995

## Вялікі пост

## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

Слава Ісусу Хрысту!

Дзякую Богу, што маю нагоду зьвярнуцца да тых, каму Госпад паслаў гэтую газэту.

Ужо амаль дзьве тысячы гадоў, як на зямлю прыйшоў Хрыстос. Людзі, і асабліва хрысьціяне, шмат прыклалі й прыкладаюць высілкаў дзеля еднасьці, асабліва цяпер, у гэты час, калі ў сьвеце ўсё больш забываюць пра Бога. Ствараюцца пэўныя групы людзей, якія адкрыта выступаюць супраць хрысьціянскіх прынцыпаў маралі, матэрыялізм імкліва ахоплівае ўсе краіны. Ужо ні для каго няма тайны, што на Захадзе закрываюцца і нават прадаюцца храмы самых розных веравызнаньняў. Дый у нас, як бы мы сябе ня цешылі, храмы паўпустыя. Звычайна яны запаўняюцца хіба што двойчы на год — на Раство ды Пасху. Калі зірнуць праўдзе ў вочы, то ўбачанае атрымліваецца страшным.

У гэтай сувязі хацеў спытаць усіх вас, ці ёсьць мы яшчэ тою сольлю, пра якую казаў Хрыстос? Можа нас трэба ўжо выкінуць? Ці маем мы надзею ды любоў? Ці можам мы паказаць сьвету Хрыста? Паказаць Хрыста — значыць засьведчыць любоў адзін да аднаго, любоў, пра якую мы пастаянна гаворым, а ніхто яе ня бачыць. Праваслаўныя да рыма-каталікоў, рыма-каталікі да грэка-каталікоў, грэка-каталікі да праваслаўных, — усе мусім мець любоў такую, якую меў Ісус Хрыстос.

Рэдакцыя нашае газэты ня ставіць на мэце "перацягнуць" кагось. Прагнем толькі, каб у нашых адносінах адзін да другога мы бачылі братоў і сёстраў. Каб запанавала паміж намі еднасьць праз нашую любоў.

Можа спытаеце, хто нам даў права зьвяртацца да Вас? — Адкажам: Хрыстос. Госпад спытае кожнага з нас, што ***ты*** зрабіў, каб людзі спазналі Мяне, якія прыклаў высілкі для еднасьці Царквы?

Верым, што ў нашых пошуках мы не адныя, і ня будзем адным. Многія прагнуць той еднасьці, але ня маюць сілаў засьведчыць яе. Бог дае нам цяпер магчымасьць рабіць гэтыя крокі да еднасьці. Усё мае свой пачатак. Калі мы цяпер пачнем, то й хутчэй станецца. Ведаем, што ў кожнага паўстануць цяжкасьці, калі ён пачне рабіць якіясь намаганьні дзеля еднасьці. Але хрысьціянства — заўсёды рызыка, бо хрысьціянін мае надзею толькі на Бога.

Выпускаючы гэтую газэту, таксама хочам даць нагоду спазнаць праўду пра нашую Царкву, якая не баіцца называць сябе праваслаўнаю ды каталіцкаю адначасова. Хочам паказаць сваё сапраўднае аблічча з усімі плюсамі ды мінусамі, посьпехамі ды няўдачамі. Хочам быць адкрытымі, бо толькі там, дзе ёсьць шчырасьць, праўда й любоў, можа наступіць праўдзівае яднаньне.

***айцец Валеры, Рэдактар***



Хрыстос Уседзяржыцель. Ікона з Македоніі, XIV ст.

### МАЛІТВА СЬВЯТОГА АХРЭМА СЫРЫНА

Госпадзе і Ўладару жыцьця майго,
духа ленасьці, нуды, уладалюбства і
марнаслоўя ня дай мне.
Духа чысьціні, пакоры, цярплівасьці і
любові дай мне, слузе Твайму.
Так, Госпадзе Ўладару! Дай мне бачыць
мае правіны і не асуджаць брата майго, бо
Ты блаславёны на вякі вякоў.
Амін.



# СЛОВА
## АПОСТАЛЬСКАГА ВІЗЫТАТАРА
### «ad nutum Sanctae Sedis» для Грэка-Каталікоў на Беларусі
### на Нядзелю Крыжапаклонную 1995 году

**Шаноўныя і Вялебныя Айцы: Сьвятары і Дыяканы,**
**Дарагія Браты Манахі і Клерыкі,**
**Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!**

*Крыжу Твайму пакланяемся, Уладару,*
*і сьвятое Ўваскрасеньне Тваё славім!*

1. Вось, пасярэдзіне сьвятога часу Вялікага Посту сьвятая Царква запрашае нас аддаць паклон Крыжу Ісуса Хрыста, нашага Збаўцы. У гэты дзень збліжаемся да крыжа і цалуем яго з глыбокай пашанай, вызнаем, што ён – знак нашай веры. На крыжы Ісус Хрыстос памёр дзеля нашага збаўленьня. Таму крыж ёсьць для хрысьціяніна знакам Божай любові і перамогі.

Знакам крыжа мы пазначаныя падчас сьвятога Хросту. Гэтым знакам кожны хрысьціянін павінен пачынаць і заканчваць дзень. Гэтым знакам бацькі павінны блаславляць сваіх дзяцей. Крыж – гэта сапраўды слава і гонар Царквы, гонар усіх хрысьціянаў.

Пакланеньне, якое сёньня аддаем Крыжу Ісуса Хрыста ў нашых сьвятынях, капліцах і дамох, павінна быць выразам нашай веры. У гэтым сьвятым часе Вялікага Посту мы мусім, аднак, запытаць сябе, ці ўсё нашае жыцьцё, ці кожны наш дзень сьведчыць пра тое, што мы – хрысьціяне, што мы вызнаем Ісуса Хрыста ўкрыжаванага і ўваскрослага.

Таму Царква заклікае ўсіх нас да адновы нашага хрысьціянскага жыцьця праз вялікапосную споведзь і ўдзел у сьвятым Прычасьці.

Памятайма таксама ў нашых малітвах аб усіх тых нашых братох і сёстрах, якія прыгатаўляюцца да сьвятога Хросту. Просім Госпада, «каб у свой час яны сталіся дастойнымі вады адраджэньня, адпушчэньня грахоў і зьяднаньня з паўсюднай і апостальскай Царквой».

2. Дарагія Браты і Сёстры!

Крыж Ісуса Хрыста спадарожнічаў нашаму народу ад часу сьвятога Хросту нашых продкаў па-над тысячу гадоў таму. Землі Беларусі больш як тысячу гадоў балі ўпрыгожаныя крыжамі хрысьціянскіх сьвятыняў: цэркваў, касьцёлаў і збораў, і шматлікімі прыдарожнымі крыжамі. Беларускі народ праз тысячу гадоў зьвяртаў свой позірк на Крыж Хрыста ў хвіліны жыцьцёвых цяжкасьцяў і перасьледваньняў.

У нядаўнім часе рэлігійных перасьледаваньняў бязбожны вораг стараўся паскідваць усе крыжы са сьвятыняў, разьсеяных па нашай зямлі, стараўся разбурыць усе сьвятыні, стараўся вырваць веру з сэрцаў народу. Аднак жа прыйшла перамога, перамога Хрыстовага Крыжа. Праўда, гэтая перамога сталася акупленая вялікай ахвярай усяго народу. Вялікую цану мусіла заплаціць таксама нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква.

Сёньня, аддаючы паклон Крыжу Ісуса Хрыста і з пашанай успамінаючы Яго Муку, узгадаем таксама вялікіх падзьвіжнікаў веры, якія ў часе перасьледаваньняў панесьлі мучаніцкую сьмерць, ці то з рук карычневых, ці чырвоных перасьледвальнікаў.

Узгадаем грэка-каталіцкага экзарха Беларусі Антона Неманцэвіча, расстралянага немцамі, узгадаем архімандрытаў Фабіяна Абрантовіча і Андрэя Цікоту, замучаных бальшавікамі, узгатаем таксама айцоў Антона Ляшчэвіча і Юрыя Кашыру, спаленых немцамі ў Росіцы разам са сваімі парафіянамі. Узгадаем, урэшце, сотні тысячаў бязыменных ахвяраў вайны, а таксама нязьлічоныя ахвяры камуністычнага тэрору, вялікім, але далёка не адзіным сымбалем якога ёсьць Курапаты.

Пра гэтую вялікую армію новых мучанікаў на Ўсходзе Эўропы, таксама і на Беларусі, прыгадаў нядаўна Сьвяты Айцец Ян Павал II у сваёй знанай кніжцы «Пераступіць парог надзеі» (нр.27).

Верым, што гэтае вялікае мучаніцтва не было марным. Мучаніцтва нашых братоў і сёстраў павінна быць сёньня, у сьвятле Хрыстовага Крыжа, крыніцай духоўнага адраджэньня нашага народу, нашай Айчыны і нашай Царквы.

3. Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква прагне сёньня прынесьці Хрысту ў малітве ўсякія ахвяры рэлігійных і нацыянальных перасьледаваньняў на Беларусі. З Крыжа Ісуса Хрыста і з тых нязьлічоных ахвяраў прагнем чэрпаць моц для духоўнага адраджэньня нашай Царквы.

Знакам гэтага духоўнага адраджэньня павінны быць адбудаваныя ці новапабудаваныя нашыя сьвятыні.

Нягледзячы на новыя часы, дагэтуль мы не змаглі атрымаць аніводнай з нашых сьвятыняў, якія калісь належалі грэка-каталікам на Беларусі. Прагнем пабудаваць новыя сьвятыні, прагнем паставіць на іх крыжы як знакі нашай веры і заклік да вернасьці Хрысту і Бацькаўшчыне.

Дарагія Браты і Сёстры! Няхай сёньняшняя Крыжапаклонная нядзеля будзе ў нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве днём асаблівай малітвы аб Божай помачы і блаславенстве ва ўсіх нашых намаганьнях будовы і адбудовы нашых сьвятыняў. Просім Госпада, каб мы маглі пабудаваць новыя месцы Божага культу, каб маглі мы маліцца на тых месцах, якія ўжо нам прызначаны, але дагэтуль служаць іншым мэтам. Просім Госпада, каб моцай свайго Крыжа Ён зьнішчыў усякіх дэманаў, якія супраціўляюцца ўслаўленьню Яго сьвятога Імя.

4. Браты і Сёстры!

Пра поўную свабоду для нашае Царквы, пра перамогу Крыжа Хрыстовага ў нашым жыцьці і ў жыцьці нашага народу хочам маліцца словамі Малітвы да Ўкрыжаванага Хрыста з «Малой падарожнай кніжкі» Францішка Скарыны:

*Збавіцелю наш, Госпадзе Ісусе Хрысьце, бачу Цябе павешаным на крыжы дзеля Тваёй вялікай любові роду людзкога. Галаву маеш нахіленую, хочучы пачуць малітвы ўсіх нас; сэрца маеш адчыненае, хочучы даць усім ласку Тваю; рукі маеш расьцягненыя, хочучы ўсіх нас да Сябе прыгарнуць; ногі маеш прыбітыя цьвікамі, хочучы быць заўсёды з грэшнікамі. Малю Цябе сёньня: дзеля Тваe горкае сьмерці і пачэснага крыжа пачуй малітвы мае, пашлі мне ласку Тваю, прыгарні мяне да Сябе і будзь са мною ў час сьмерці маёй. Амін.*

Браты і Сёстры! Няхай сьвяты час Вялікага Посту будзе для нас усіх часам духоўнай адновы і ўзаемнай малітвы за сябе. Няхай Укрыжаваны Збавіцель спашле ўсім Вам багата ласкі і блаславенстваў.

*Блаславеньне Гасподняе хай будзе на вас, ласкаю Яго і чалавекалюбствам на ўсе часы, цяпер і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.*

Нядзеля Крыжапаклонная
19 сакавіка 1995 году, Ватыкан-Менск.

Айцец Сяргей Гаек

# СЬВЯТА АПЯКУНА ЗЬЯДНАНЬНЯ

Назаўсёды ўпісанае ў аналы гісторыі слаўнае імя сьв.Язафата, архібіскупа Полацкага. Яго верніцкі чын стаў яскравым прыкладам адданасьці Хрысту. Так, мабыць, было ўгодна Госпаду, каб справа царкоўнай еднасьці сталася асьвячанай ахвяраю мучаніцтва.

12 і 13 лістапада 1994 г. ва ўсіх грэка-каталіцкіх парафіях на Беларусі адбыліся ўрачыстыя багаслужэньні з нагоды дня сьвятога мучаніка Язафата. Асноўныя ж дзеі адбываліся ў Віцебску й Полацку.

12 лістапада ўрачыстасьці пачаліся архірэйскаю Літургіяй у рыма-каталіцкім касьцёле сьв.Барбары, якую ўзначаліў біскуп Юліян Вараноўскі, ардынары Самбірска-Драгобіцкай епархіі з Украіны. Таксама з Украіны прыехалі колькі дзясяткаў паломнікаў, у іх ліку сьвятары, манахі й манахіні, клерыкі, з Польшчы — а.Раман Пентка, настаяцель уніяцкай парафіі ў вёсцы Кастамлоты, што на самай мяжы зь Беларусяй, і а.дэкан Ян Матусэвіч зь Менску. Было зачытанае блаславеньне віцебскім вернікам, якое са Львову пераслаў блажэнны Мірaслаў Іван кардынал Любачыўскі. Такое ж блаславеньне было таксама ўдзеленае полацкім вернікам.

Па абедзе адбылася экскурсія па горадзе. А калі крыху сьцямнела, нетаропкая чарада вернікаў прыйшла да таго месца, скуль бязьвіннае цела мучаніка было скінутае ў Дзьвіну. Упяршыню па-беларуску гучаў хваласьпеў прынагоднага акафісту. Мігценьне сьвечак у змроку стварала пачуцьцё чагось трапяткога, узвышанага й недатыкальнага. Быццам хор анёлаў прыляцеў на гэтую грэшную зямлю, каб памянуць перад Госпадам Яго ўгодніка.

На наступны дзень урачыстасьці працягваліся ў старажытным Полацку. Сюды прыехалі ў паломніцтва маладыя хлопцы й дзяўчаты зь Менску, таксама дзіцячы хор са сваёю кіраўнічкаю Галінаю Смоляк. На гасьцей, асабліва з Украіны, незабыўнае ўражаньне зрабіла нашая найдаражэйшая сьвятыня, храм храмаў беларускіх — Сафійскі сабор.

Нямінуча прыходзіць разьвітаньне. Цёплыя словы зычэньняў і блаславеньняў гучалі ў той час. «Да сустрэчы ў наступным лістападзе. Блаславі, сьвяты мучаніку Язафаце!»

***Юрась КАМЛЫГА***

## НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА

З Божай дапамогай у Полацку пачала працаваць нядзельная школа для дзяцей. Заняткі праводзіць брат Павал у памяшканьні капліцы сьв.Язафата. Яны пачынаюцца адразу пасьля нядзельнае Літургіі, каб багаслужэньне магло быць асноўным сродкам духоўнага выхаваньня маленькіх вернікаў. Тэмы гутарак звычайна заснаваныя на Эвангельлі.

**(бр.)**

## СЬВЯТА РАСТВА Ў ПОЛАЦКУ

У гэтым годзе сьвята Нараджэньня Хрыстова пачалося навячэр'ем у манастыры, куды ўсіх ахвотных запрасіў а.Валеры. Ахвотных жа было столькі, што ледзьве разьмясьціліся ў трапезнай. Посная куцьця прайшла ў поўнай адпаведнасьці зь лепшымі хрысьціянскімі народнымі традыцыямі. Былі й нечаканасьці, калі, напрыклад, прыйшоў сам сьв.Мікола й пачаставаў кожнага, але ў адпаведнасьці з іх духоўнымі набыткамі. Вельмі натуральна гучалі беларускія рэлігійныя песьні пры сьвячох. Навячэр'е запомнілася ўсім, найбольш, мабыць, дзецям, якія таксама частаваліся.

Сьвяточная служба на наступны дзень была ў капліцы. Дзякуючы брату Раману пад ялінкаю зьявіліся яселькі. Падарунак да сьвята атрымаў і а.Валеры: з далёкай Амэрыкі тамтэйшыя беларусы даслалі ў Полацак праз Сяржука Сокалава-Вою́ша для першага беларускага ераманаха расу. Падарунак нечаканы і прыемны. Пасьля службы была батлейка.

Традыцыі батлейкі на нашых землях сягаюць 15-16 стт. Напачатку яны былі толькі лялечныя, але ў сярэдзіне 19 ст. сталі зьяўляцца т.зв. «жывыя» батлейкі, у выкананьні людзей. Такую жывую батлейку вырашылі паставіць і мы. Быў падрыхтаваны тэкст, разьмеркаваныя ролі і пасьля рэпэтыцый адмысловую пастаноўку належна ацанілі гледачы. З гэтай жа батлейкай мы наведалі касьцёл, дзе былі вельмі цёпла прынятыя кс.Францішкам і вернікамі. Пазьней на запрашэньне наведаліся да вучняў гуманітарнай гімназіі, выступілі ў лякарні для анкалягічна хворых. Хто пажадае атрымаць тэкст батлейкі – зьвяртайцеся.

**М.Ш.**

## ПРОШЧА ГРЭКА–КАТАЛІКОЎ

Полацкая грэка-каталіцкая парафія паінфармавала, што з 8 па 12 ліпеня яна арганізуе разам з полацкім студыцкім манастыром сьвв.Барыса й Глеба прошчу зь Віцебску ў Полацак. Ёй будуць папярэднічаць трохдзённыя рэкалекцыі ў студыцкім манастыры для кіраўнікоў маладзёжных супольнасьцяў грэка-каталіцкіх парафіяў. Ахвотныя прыняць удзел у прошчы могуць зьвяртацца за дадатковай інфармацыяй у полацкі манастыр.

**(«Унія»)**

## НОВАЕ ВЫДАНЬНЕ

Грэка-каталіцкая парафія сьв.Язафата і манастыр сьвв.Барыса й Глеба ў Полацку пачалі сумесна выдаваць абвесьнік «Сафія». Першы нумар зьмяшчае казань ераманаха Валерыя на тэму Вялікага Посту, цікавы артыкул пад рубрыкай «Аб сутнасьці Літургіі», падборку інфармацыйных паведамленьняў пра жыцьцё полацкіх грэка–каталікоў, рэкляму нашай газэты. Абвесьнік можна будзе атрымліваць задарма, дзеля гэтага трэба напісаць у Барысаглебскі манастыр.

## ВІДЭАФІЛЬМЫ Ў КАПЛІЦЫ

Ад лютага ў менскай капліцы Маці Божай Нястомнай Дапамогі раз–два на тыдзень можна паглядзець пасьля літургіі добрыя хрысьціянскія відэафільмы. Ініцыятыву настаяцеля а.Казіміра Ляховіча падтрымалі вернікі. У пачатку сакавіка між іншым быў паказаны цудоўны фільм італійскага майстра Джэфэрэлі «Ісус Хрыстос з Назарэту».

**(і.і.)**

## ГРЭКА-КАТАЛІЦКІЯ ПАРАФІІ НА БЕЛАРУСІ

У *Менску* багаслужэньні адбываюцца штодня а гадз. $19^{00}$ (у сераду а гадз. $8^{00}$) у капліцы Маці Божай Нястомнай Дапамогі (вул.Прытыцкага, 38, 1-ы пад'езд). У нядзелю сьв. Літургія а гадз. $10^{00}$, $12^{00}$ і $19^{00}$. (*Парахі – протапрэсьвітар а.Ян Матусэвіч, а.Казімір Ляховіч*).

У *Полацку* сьв. Літургія ў нядзелі і сьвяты а гадз. $9^{00}$ у капліцы сьв.Язафата (вул.Сьвярдлова, 1). Таксама ў манастыры сьвв. Барыса і Глеба (вул.Навасёлаў, 70) багаслужэньні згодна матастырскага ўставу. (*Парах – ераманах Валеры Алексійчук*).

У *Віцебску* сьв. Літургія кожную нядзелю. Тэл. 373-356, 332-969, Ігар Цішкін. (*Ераманах Валеры Алексійчук*).

У *Берасьці* сьв. Літургія двойчы на месяц па пятніцах. Тэл. 68-268, Яўген Петухоў. (*Ераманах Валеры Алексійчук, ераманах Раман Пентка*).

У *Гомелі* сьв. Літургія двойчы на месяц па пятніцах у рыма-каталіцкай капліцы. Тэл. 36-512, Вольга Чэкан. (*Ераманах Валеры Алексійчук*).

У *Лідзе* сьв. Літургія кожную нядзелю ў капліцы сьв.Язафата. Зьвяртацца: 231300, г.Ліда, вул.Кірава, 7–65, Сьвятлана Канапацкая. (*Айцец Казімір Ляховіч*).

У *Магілеве* сьв. Літургія кожную суботу ў рыма-каталіцкім касьцёле сьв.Станіслава. Тэл. 248-864, Вашырава Алена; 225-419, 256-4736 Ігар Шары. (*Айцец Казімір Ляховіч*).

У *Горадні* сьв. Літургія кожную нядзелю. Тэл. 444-573, Юры Мацко. (*Парах – а.Віктар Данілаў*).

У *Маладэчне* сьв. Літургія два разы на месяц у нядзелю. Тэл. 75-122, 76-160, Алесь Капуцкі. (*Айцец Ян Матусэвіч*).

Беларускія грэка-каталіцкія сьвятары таксама ёсьць у *Лёндане* (а.Аляксандар Надсан і а.Канстантын Маскалік, Marian House, Holden Avenue) і ў *Рыме* (а.Робэрт Крывіцкі, Rome, Via Corsica, 1)

## ВІНШАВАНЬНІ

Шчыра віншуем дарагіх калегаў зь Беларускай сэкцыі Радыё Ватыкан з 45-мі ўгодкамі рэгулярнага вяшчаньня. Зычым багатых пладоў у працы і шматлікіх ласкаў Божых!

**Рэдакцыя**

### ПРАГРАМЫ РАДЫЁ ВАТЫКАН

можна слухаць штодзённа а гадзіне 6.20 і 20.00 на наступных частотах: 5882 і 6185 kHz у дыяпазоне 49 мэтраў кароткіх хваляў, ды 1611 kHz на сярэдніх хвалях. *Слухайце беларускія праграмы Радыё Ватыкан!*

З нагоды выхаду ў сьвет першага нумару газэты «Царква» жадаю рэдакцыі посьпехаў ў справе адраджэньня духоўнасьці вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Няхай Усемагутны Бог блаславіць усіх, хто прыкладае і будзе прыкладаць намаганьні дзеля існаваньня гэтага карыснага для нас выданьня.

*Дэкан БГКЦ, протапрэсьвітар*
**а.Ян Матусэвіч**

Зычу рэдакцыі «Царквы» плённае працы, шматлікіх дароў Духа Сьвятога і блаславеньня Божага.

*Настаяцель парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Менску*
**а.Казімір Ляховіч**

12 лютага г.г. споўнілася 110 гадоў з дня заснаваньня Івана-Франкоўскай грэка-каталіцкай епархіі на Ўкраіне. З гэтае радаснае нагоды ў Івана-Франкоўску адбыліся ўрачыстасьці. Папа Ян Павал II даслаў сваё віншаваньні і ўдзяліў апостальскага блаславеньня ўсім вернікам. *Рэдакцыя газэты «Царква» і выдавецтва «Унія»* шчыра віншуюць ардынарыя Івана-Франкоўскай епархіі Прэасьвяшчэннага ўладыку Сафрона Дмытэрку і ўсіх вернікаў епархіі зь юбілеем.

У свой час уладыка Сафрон прыклаў вялікія намаганьні, каб дапамагчы беларускім грэка-каталікам наладзіць царкоўнае жыцьцё пасьля дзесяцігодзьдзяў перасьледу. Вялікі дзякуй і найлепшыя зычэньні!

### НАЧНОЕ ЧУВАНЬНЕ

У ноч з 25 на 26-е лютага ў касьцёле Сьвятой Тройцы ў Менску адбылося начное чуваньне, арганізаванае маладзёжнай суполкай гэтае парафіі. Да менчукоў далучыліся іхнія браты й сёстры з Барысава, Маладэчна ды іншых местаў Беларусі. Ягонаю мэтай было засяроджаньне на малітве, разважаньне над Словам Божым, падзяка Стварыцелю і праслаўленьне Яго.

Пад час падрыхтоўкі чуваньня моладзь сутыкнулася зь вялікімі праблемамі, абумоўленымі канцэртамі і рэпэтыцыямі ў касьцёле, дзе дагэтуль гаспадарнічае Белдзяржфілармонія. Наступнае чуваньне адбудзецца абноч з 25 на 26 сакавіка.

**(Інф. сл. ЗБС)**

### СЭМІНАРЫЯ Ў ГОРАДНІ

У Вышэйшай духоўнай сэмінарыі ў Горадні цяпер навучаецца блізу 130 студэнтаў. Гэта адзіная рыма-каталіцкая сэмінарыя ў краіне. Першыя дыяканы прымуць сьвятарскія сьвячаньні вясной 1996 г.

**(Крэдо)**

### ВЯРТАНЬНЕ ІКОНЫ

У горадзе Чарніўцы на Ўкраіне вярнулася ў мясцовы протакатэдральны сабор Усьпеньня Найсьвяцейшай Багародзіцы цудатворная ікона Божай Маці Чарнівецкай. Дзясяткі гадоў таму, пасьля забароны Уніі на Ўкраіне, ікону перанесьлі ў праваслаўную царкву сьв.-Мікалая. Цяпер жа з дапамогаю духавенства і вернікаў-грэка-каталікоў з Аўстрыі цудатворны абраз быў выкуплены ў абмен на сусальнае золата. Са сьлязамі радасьці пераносілі вернікі ікону Найсьвяцейшай Багародзіцы ў свой храм.

**(Нова Зоря)**

### ПРА ГЕЛЬМУТА КОЛЯ

Вера ў Бога ёсьць вырашальным чыньнікам у жыцьці канцлера Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі Гельмута Коля, – піша нямецкі часопіс Publik-Forum, цытуючы словы самаго канцлера. Рэгулярны ўдзел у Божых Службах - звычайная для яго справа. Удзел у багаслужэньнях дазваляе Колю пасьля поўных напружаньня дзён прафэсійнага палітыка знайсьці супакой і раўнавагу духу. Для гэтага вельмі папулярнага палітыка хрысьціянства азначае ў тым ліку, што «кожная форма нацыяналізму і шавінізму ёсьць цяжкім грахом».

**(Крэдо)**

### ЦАРКОЎНАЯ СЬВЯЧА— ПРАДМЕТ БІЗНЭСУ

Як паведаміла газэта *Православная Москва*, у Санкт-Пецярбургу шэраг недзяржаўных крамаў прапанавалі на продаж традыцыйныя царкоўныя сьвечы.

Кошты на іх устанавілі меншыя, чым у праваслаўных храмах, вось вернікі і сталі купляць «камэрцыйную» прадукцыю. На жаль, такая ініцыятыва моцна стала падрываць і без таго небагатыя бюджэты многіх парафіяў. У сувязі з гэтым мітрапаліт С-Пецярбурскі і Ладаскі Іаан зьвярнуўся да вернікаў. Між іншым ён нагадаў, што сьвяча, з аднаго боку, сымбалізуе гарэньне нашага духу да Бога, а з другога – гэта ахвяра на ўтрыманьне храмаў. Таму мітрапаліт Іаан блаславіў праваслаўных вернікаў набываць сьвечы толькі ў цэрквах, каб ахвяра была дабрапрыемная Творцу і стала чыстасардэчным дарам на ўтрыманьне не бязпрынцыповых камэрсантаў, але храмаў, у якіх моляцца вернікі.

### ЦЕРПЯЧАЯ ЦАРКВА Ў ПАКІСТАНЕ

13 лютага г.г. у Мэдыяляне быў распаўсюджаны прэсавы камунікат агенцыі «Азія Ньюс» з прычыны вынясеньня сьмяротнага пакараньня двум хрысьціянам у Пакістане, абвінавачаных у блюзнэрстве на Магамэта. 9 лютага г.г. мясцовы суд у Lahore засудзіў на сьмерць 14-гадовага хлопца і яго 35-гадовую маці. Апрача сьмяротнага прысуду яны таксама прыгавораныя да двух гадоў строгага турэмнага пакараньня і высокага грашовага штрафу.

Асуджаныя былі арыштаваныя ў траўні 1993 г. у выніку даносу масульманаў, каторыя нібы бачылі іх падчас выпісваньня на мурох мячэці абразьлівых да Магамэта словаў. Абвінавачаныя хрысьціяне, аднак, адмовілі данос. У якасьці доказу засьведчылі, што ёсьць няпісьменнымі і не маглі споўніць дадзенага акту. Людзі ж, якія зрабілі данос, хацелі зьвесьці з імі рахункі.

Першапачаткова абвінавачаных было трох хрысьціянаў, але адзін з іх быў застрэлены масульманінам адразу па выйсьці з судовай залы пасьля першага разьбіральніцтва. Двух жа асудзілі на сьмерць паводле карнага кодэксу, каторы прадугледжвае найвышэйшую меру пакараньня для тых, якія сваімі ўчынкамі выступаюць супраць прарока Магамэта ці супраць сьвятой кнігі масульманаў Карану.

### РЭДАКЦЫЙНЫЯ АБВЕСТКІ

Дарагія браты і сёстры! Мы разумеем, што маленькі аб'ём газэты не дазволіць нам апублікаваць шмат якіх матэрыялаў пра нашую Царкву. Таму просім усіх, хто хоча больш даведацца пра гісторыю, ролю й значэньне Царквы, таксама замовіць кнігі на гэтыя тэмы, напісаць нашаму галоўнаму рэдактару ў Полацак.

---

Грэка-каталіцкая парафія Іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі просіць фінансавае дапамогі ў будаўніцтве царквы ў Менску. Наш разьліковы рахунак: №701002 у АКБ «Дукат» г.Мінска, код 767.

### СЬВЯТАРЫ ГАНЯЮЦЬ МЯЧ

У Аўстрыі арганізаваная першая футбольная каманда, якая цалкам складаецца са сьвятароў. У таварыскай сустрэчы з прадстаўнікамі гімназіі сьв.-Дона Боскі ў Унтэрвальтэрдорфу сьвятары перамаглі зь лікам 8:2. Каманда аўстрыйскіх сьвятароў была створаная па ініцыятыве а.Бэрнарда Маера, які доўгія гады быў капэлянам алімпійскай зборнай Аўстрыі.

**(KAI)**

Старонкі для моладзі

# Пілігрым

*Хачу яшчэ раз паўтарыць словы, якія я сказаў у першы ж дзень майго пантыфікату: вы - «надзея Папы», «надзея Царквы». Як я адчуваў вашую прысутнасьць і сяброўства ўсе гады, што служыў Царкве! Цяплыня вашых сэрцаў і вашыя малітвы й цяпер суправаджаюць і падтрымліваюць мяне ў выкананьні місіі, якую я атрымаў ад Хрыста.* **Ян Павал II**

## НОВАЯ ЭВАНГЕЛІЗАЦЫЯ

Новая эвангелізацыя зьяўляецца падставоваю задачаю Царквы нашых дзён. Гэты выраз ("новая эвангелізацыя") Ян Павал II першы раз ужыў у гаміліі, сказанай у Новае Гуце-Магіле ў 1979 г. Кажучы да пілігрымаў з Кракаву, Тарнуву й Кельцаў пра таямніцу Крыжа Гасподняга, ён узгадаў аб простым драўляным крыжы, які ў год 1000-годзьдзя хросту Польшчы паставілі мэталургі ў адным з кварталаў гэтага работніцкага гораду як сымбаль будовы новае сьвятыні. "Мы атрымалі знак, што на парог новага тысячагодзьдзя — у гэтыя новыя часы і новыя варункі — зноў уваходзіць Эвангельле. Гэта пачалася "новая эвангелізацыя", быццам другая, але ўсё ж тая самая, што й першая. Сьвет зьмяняецца, але Крыж застаецца. Дзякуем тут ля крыжа магільскім, таксама навагуцкім, за той новы пачатак эвангелізацыі, які тут зроблены. І просім усе, каб гэты пачатак таксама быў шчодры на плады — канешне, яшчэ больш багаты, чым першы".

У сваіх навучаннях папа часта ўжывае выраз "новая эвангелізацыя". Ян Павал II падкрэсьлівае неабходнасьць абвяшчаць праўду Хрыста і сьведчыць аб ёй ва ўсіх грамадзкіх супольнасьцях. Неабходнасьць тым большую, што расьце рэлігійная абыякавасьць і практычны матэрыялізм.

Мэтаю "новай эвангелізацыі", якая дамагаецца новага запалу й шчыльнейшага супрацоўніцтва душпастыраў са сьвецкімі, ёсьць фармаваньне сьпелых царкоўных супольнасьцяў, у якіх вера выяўляецца й існуе ў сапраўдным першасным значэньні — як шлях да асобы Хрыста і Яго Эвангельля, як спатканьне й сакрамантальнае паяднаньне з Хрыстом, як жыцьцё ў духу любові й служэньня" (Christifideles laici, 34).

*Паводле L"Osservatore Romano*

## З НАТАТНІКУ *Пілігрыма*

На жаль, восень, як і зіма, ня зусім прыдатны час хадзіць у пілігрымкі, так што гэтым разам я абмежаваўся калькімі канфэрэнцыямі ды рэкалекцыямі.

29 верасьня – 1 кастрычніка быў я разам з двума прыяцелямі на форуме "Эвангелізацыя-2000", арганізаваным у Кракаве некалькімі хрысьціянскімі супольнасьцямі гэтага места. Першыя два дні форуму былі прысьвечаныя тэарэтычным пытаньням эвангелізацыі, апошні дзень і штодзённыя сэмінары — практычнаму прымяненьню атрыманых ведаў. Асаблівая ўвага акцэнтавалася на дзейнасьці эвангелізацыйных школаў, якіх у Эўропе ды Амэрыцы ўжо налічваецца больш сотні. На жаль, ня змог пабыць на сэмінары, прысьвечаным экумэнічнаму аспэкту эвангелізацыі, які вёў наш айцец Візытатар, бо ў гэты час надалася рэдкая магчымасьць пазнаёміцца з рэдактарамі польскіх каталіцкіх пэрыёдыкаў.

З 12 да 24 кастрычніка я прайшоў т.зв. "Курс Паула", які ў мястэчку Магдаленка, што пад Варшавай, арганізавала італійская супольнасьць Яна Хрысьціцеля. Зь Беларусі нас было 15 чалавекаў, таксама прыехала моладзь з Латвіі, Літвы, Эстоніі, Казахстану, Польшчы ды Украіны. Вельмі зьмястоўныя і арыгінальныя лекцыі чытаў адзін зь лідараў супольнасьці Альвара Граматыка. Асноўны сэнс прапанаванай нам мэтоды можна акрэсьліць як "эвангелізуючы, эвангелізуйся сам". Курс завяршыўся двухдзённай эвангелізацыяй у Варшаве. З сабой я прывёз цудоўнае ўсьведамленьне ***рэальнай*** прысутнасьці Хрыста ***паўсюль***, радасьць у нашым Госпадзе.

Толькі я пасьпеў саскочыць у Менску зь цягніка, як трэ' было ехаць ізноў — рыма-каталіцкая моладзь з парафіі Сьв.Тройцы у Менску запрасіла мяне ды іншых грэка-каталікоў на рэкалекцыі ў Друю. Два дні ў старых і вельмі халодных мурох марыянскага кляштару прабеглі незаўважна. Сьв. Літургія зьмянялася катэхезай (катэхезы былі прысьвечаныя гісторыі Збаўленьня і Найсьвяцейшай Марыі), тыя — супольнаю малітваю, пасьля былі розныя забавы і ўвесь час файныя сьпевы пад гітару. Такія рэкалекцыі адбываюцца амаль кожны месяц, так што спадзяюся спаткацца з табою, дарагі сябра, на наступных.

Ад самых Калядаў уніяцкая моладзь у Менску пачала штотыдзень зьбірацца на малітоўныя спатканьні. Разам са сваімі прыяцелямі мы разважаем над разьдзеламі зь Біблії, молімся, сьпяваем. Вялікую дапамогу аказвае добры прыяцель менскіх каталікоў Яраслаў Лукасік з Польшчы. Не сумняемся, што за нашую супольнасьць моляцца іншыя нашыя сябры, таксама і а.Робэрт у Рыме.

У пачатку лютага да грэка-каталіцкай моладзі прыехалі ў госьці цудоўныя чатыры хлапцы і адна дзяўчына з Прагі Чэскай. Выдатныя чатыры вечары катэхезаў яны наладзілі ў менскай капліцы. Моцна спадзяюся, што Сьцяпанка, Іржы, Петар, Мар'ян і Алэсь завітаюць да нас яшчэ раз.

Тым часам супольнасьць рыма-каталіцкай моладзі парафіі Сьв.Тройцы ў Менску весела адзначыла свой 2-гадовы юбілей, з чым і віншую самаахвярных і прыязных хлапцоў і дзяўчатаў з Залатой горкі!

Вось покуль і ўсё. Заўсёды Твой —

*Пілігрым.*

## Хрыстос паміж намі!

Дарагія хрысьціяне!

Вас вітае маладзёжная хрысьціянская арганізацыя, якая зарэгістраваная ў Кіеве як хрысьціянская турыстычная кампанія "Генэзіс Ltd". Мы ўсе — праваслаўныя, але ня думаем, што гэта будзе бар'ерам для нашых кантактаў. Бо ж у нас падобныя абрады, супадаюць сьвяты [...].

Мэта нашае арганізацыі — прымаць у Кіеве і прадастаўляць неабходныя паслугі для добрага й незабыўнага адпачынку групам паломнікаў і дзецям школьнага ўзросту.

Таксама мы зьбіраемся частку ўласнага прыбытку аддаваць дзіцячаму дому, які знаходзіцца недалёка ад нашае арганізацыі.

Мы яшчэ вельмі маладая арганізацыя і спадзяёмся, што Ісус дапаможа нам у нашай справе [...].

Зь любоўю —

Сяргей Быстроў, кіраўнік.

Тэл. (044) 518-49-68.

*Яраслаў ЛУКАСІК (Падляшша)*

# СУПОЛЬНАСЬЦЬ СУПОЛЬНАСЬЦЯЎ

Наш Госпад Ісус Хрыстос, калі пачынаў Сваё служэньне, — пропаведзь Валадарства Нябеснага, на самым пачатку паклікаў Сабе вучнямі Андрэя і Пятра, Якуба і Яна, сказаўшы ім простыя словы: «Ідзіце за Мною.» Андрэй, Пётар, Ян ды Якуб, таксама многія іншыя, калі пачулі гэтае пакліканьне Настаўніка, то кінулі ўсё й пайшлі за Ім. Яны заўсёды былі разам: разам вандравалі ад места да места, разам працавалі, разам маліліся, разам елі, разам перажывалі радасьць і гора. Але ў першую чаргу апосталы вучыліся ад Хрыста, як трэба жыць.

Ісус не паклікаў вучняў таму, што яны былі ўжо добрымі й сьвятымі. Не. Былі яны простымі людзьмі, кожны са сваімі праблемамі й недахопамі. Гэта Ісус хацеў зрабіць іх добрымі й сьвятымі, таму тры гады быў з імі нясупынна. Вучні глядзелі на Настаўніка, бачылі, як Ён моліцца, як вырашае праблемы, як паводзіць Сябе ў розных сытуацыях, як аздараўляе хворых, як прымае людзей. І ўсё гэта рабілася ў атмасфэры, якую вызначала слова.

Аднойчы, ужо пасьля Сваёй сьмерці й уваскрасеньня, Госпад сабраў найвярнейшых Сваіх вучняў, разам з імі ўзышоў на гару і там даў ім апошняе вялікае прыказаньне: «Ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам; і вось Я з вамі да сканчэньня веку.» (Мц 28:19,20) Каб жа гэтае прыказаньне магло зьдзейсьніцца, Ён загадаў ім не пакідаць Ерузаліму, але быць разам і чакаць абяцанага Сьвятога Духа, Які меў зрабіць іх здольнымі працягваць місію свайго Настаўніка. Потым Госпад узышоў на неба ды сеў праваруч Бога Айца.

Калі ж надышоў дзень абяцаны, то вучні Ісуса, таксама Яго Маці Марыя, аднадушна трывалі ў малітве, і, як кажа нам Сьвятое Пісаньне, абяцанае Госпадам споўнілася — Дух прыйшоў. Вось жа, тыя вучні, поўныя страхаў і комплексаў, у адзін момант перамяніліся ў руплівых і мужных сьведкаў Хрыстовага ўваскрасеньня. Пад узьдзеяньнем іх адважнае пропаведзі паверылі ды навярнуліся некалькі тысячаў чалавек. Нованаверненыя, на падабенства апосталаў, сталіся вучнямі Хрыста, і кожны, у меру свайго пакліканьня, жыў, падобна як апосталы. «І трывалі ў навуцы апостальскай, у супольнасьці й ламаньні хлеба, ды ў малітвах. І страх зьняў кожную душу, і многа цудаў і знаменьняў дзеялася праз Апосталаў. І ўсе веруючыя былі разам, і ўсё ў іх было супольнае; і прадавалі дабро сваё, і дзялілі між усіх, як каму трэба было. І, кожны дзень аднадушна бываючы ў храме ды ламаючы хлеб у дамох, прымалі страву ў радасьці й прастаце сэрца, славячы Бога й маючы ласку ва ўсяго народу. Госпад жа штодня дадаваў царкве спасаючыхся.» (Дз 2:42-47).

На Сваіх вучнях-апосталах Ісус заснаваў Сваю Царкву. Царкву, якая ў самым пачатку была вельмі маленькаю, сабранаю вакол Хрыста-Настаўніка супольнасьцю. Пасьля сасланьня Сьвятога Духа лічба вучняў Ісуса стала хутка ўзрастаць. Акрамя Ерузаліму зьявіліся цэрквы ў іншых месцах Палясьціны, пасьля ў паганскіх краінах Малой Азіі ды Грэцыі, і ўрэшце — у Рыме, сталіцы тагачаснага сьвету. На месцы адной, закладзенай Ісусам і апосталамі, супольнасьці нарадзіліся дзясяткі й сотні такіх жа самых абшчынаў.

Хрысьціяне, як сталі зваць новых вучняў Хрыста, жылі ў розных частках Рымскай імпэрыі і пра сваіх братоў у веры ведалі толькі па сьведчаньнях і аповядах апосталаў, якія лучылі аддаленыя на сотні кілямэтраў цэрквы. І хоць традыцыі, гістарычныя й культурныя, народаў гэтых цэркваў былі розныя, а таму й розная форма служэньня Богу, але засталася адна вера, адзін хрост, бо адзін Госпад. І адна традыцыя апостальская, што яднала ўсіх, — традыцыя Пятра, Андрэя, Яна, Якуба, Паўла. Хоць «фізычна» супольнасьцяў было шмат, але «духова» існавала толькі адна сьвятая, апостальская Царква.

Бегла кола гісторыі, а з ім разьвівалася й місія абвяшчаць радасную вестку. На новых землях хрысьціяне будавалі храмы, у якіх адзінаму Богу аддавалі хвалу. Яны слухалі сьв. Эвангельле й стараліся жыць паводле яго. Ідучы праз гісторыю, Хрыстос заўсёды клікаў Сабе новых вучняў, якія таксама, як Пётар і Андрэй, пакідалі сваё старое жыцьцё і кожны ў свой гістарычны час ішоў за Ім. Калі ж вера хрысьціянаў слабела альбо губляла сваю непасрэдную сутнасьць, тады Госпад клікаў падзьвіжнікаў-аднавіцеляў. Яны вярталіся да самых пачаткаў хрысьціянства — маленькай эвангельскай супольнасьці Настаўніка ды Яго вучняў — і, маючы перад вачыма гэты найдасканальнейшы ўзор абшчыны, згодна грамадзкіх і культурных традыцыяў свайго веку, закладалі новыя супольнасьці веры, дзе адданыя Богу людзі стараліся жыць Словам Настаўніка ўсіх часоў. Так засталіся ў гісторыі сьвятыя Бэнэдыкт, Тодар Студыт, Бэрнард, Францішак, Дамінік, Сяргей Раданескі, Ігнат Лаёла, Сэрафім Сароўскі ды многія іншыя, хто былі голасам Божым для сваіх часоў.

Не перастаў Сьвяты Дух гаварыць і да нас, людзей, якія жывем у другой палове XX-га стагодзьдзя. У часе II Ватыканскага Сабору Ён прамовіў вуснамі айцоў Царквы. Асабліва прыпомніў нам, чым зьяўляецца Царква, якая ёсьць ейная місія, які ў сувязі з гэтай місіяй яна мае мець характар. Галоўнаю мэтай існаваньня Царквы, паводле навучаньня айцоў Сабору (папа Павал VI разьвівае гэтую думку ў пасланьні *Evangelii Nuntiandi*), зьяўляецца эвангелізацыя. Эвангелізацыя — значыць абвяшчэньне раднасае весткі пра збаўленьне ў Ісусе Хрысьце. Мусіць мець яна свой пачатак у перажываньні таямніцы Слова ня інакш, як у Царкве-супольнасьці, і якая павінна весьці не ў якое іншае месца, як да Царквы-супольнасьці.

Быць хрысьціянінам — значыць быць вучнем Ісуса Хрыста. Быць Яго вучнем — значыць перажываць Яго Слова і збаўленьне, што Ён дае. Перажываць разам з іншымі вучнямі, што пачулі пакліканьне Настаўніка й выправіліся пайсьці за Ім.

Што гэтае слова ***разам*** абазначае сёньня для нас? Ёсьць у сьвеце такія парафіі, якія налічваюць нават больш 20 тысячаў вернікаў. Ці могуць людзі ў такой грамадзе асабіста ведаць адзін аднога? Напэўна, што не. Таму II Ватыканскі Сабор кажа пра парафію, што мусіць яна быць ***супольнасьцю супольнасьцяў***, каб кожны яе вернік знайшоў для сябе месца ў ёй, дзе мог бы разам з іншымі падобнымі сабе дзяліцца ўласным вопытам хрысьціянскага жыцьця.

І таму ўся Царква ва ўсёй сваёй разнастайнасьці мусіць быць ***супольнасьцю супольнасьцяў*** у літаральным значэньні гэтага слова. Яна мае герархічную структуру, але ня толькі таму, што Хрыс-

тос-Краевугольны Камень заснаваў такую структуру, але перадусім таму, што даў ёй Свайго Духа, дзякуючы якому яна можа быць супольнасцю — зачаткам Валадарства Нябеснага.

Ва ўсім сьвеце Царква сёньня адказвае на гэтае пакліканьне Ісуса, якое прыпомніў нам Сабор — пакліканьне перажываць вучнёўства разам, у жывой супольнасці. У апошнія 30 гадоў у жыцьці здэхрысьціянізаванага грамадзтва Эўропы ўзьнікла фэнамэнальная зьява. Многія старажытныя, але апусьцелыя храмы ажывіліся. Яны зноў сталі кіпець жыцьцём дзякуючы спантаннаму ўзьнікненьню малітоўных групаў, хрысьціянскіх суполак, рухаў адновы Царквы ці нават шматлікіх формаў манаскага сужыцьця. Гісторыя ўзьнікненьня гэтых групаў, іхнае пакліканьне ў сьвеце, форма існаваньня й спосаб служэньня Богу такія разнастайныя, што гэта немагчыма было б апісаць ня толькі ў адным артыкуле, але, мабыць, і ў шматтамовай энцыкляпэдыі. Найчасьцей іхныя карані сягаюць Ватыканскага Сабору, гэтай «новай Пяцідзясятніцы». Многія з гэтых групаў маюць даволі спэцыфічнае пакліканьне, прыкладам: працаваць сярод найбольш здэмаралізаваных пластоў грамадзтва, у трушчобах, турмах, выпраўленчых установах для непаўналетніх. Іншыя працуюць у шпіталях ці, як «Каўчэг» Жана Ванье, дапамагаюць вярнуцца да нармальнага жыцьця людзям з парушэньнямі псыхічнай і нэрвовай сыстэмаў. Многія суполкі й рухі засяроджваюцца на адраджэньні так зьнішчаных у XX ст. сем'яў — будуюць «сямейныя цэрквы». Іншыя вядуць хрысьціянскія школы, дзіцячыя садкі й г.д. Але найчасьцей групы займаюцца аднаўленьнем і ажыўленьнем парафіі — падставовай адзінкі Царквы. І хоць спосабы служэньня вельмі разнастайныя, у прынцыпе ствараюць яны адно — працяг місіі Хрыста-Збаўцы: эвангелізацыю ўбогіх. Пры гэтым «убогімі» ў Эўропе найчасьцей становіцца ўжо ахрышчаны хрысьціянін, які проста адышоў ад жыцьця веры.

Разам з Саборам — новым Пасланьнем Духа, як яго называюць, аднавілася прага вярнуцца да братняе любові й радыкальнасьці эвангельскага жыцьця, апісанага ў Дзеяньнях Апосталаў.

Другі Ватыканскі Сабор паклаў пачатак вялікай адновы ў Каталіцкай Царкве. Ягоныя вынікі ўжо прыжыліся таксама й на Беларусі.

Місія, пачатая нашым Госпадам Ісусам Хрыстом, працягваецца. Кожны хрысьціянін мае абавязак, а цяпер і ўсё большую магчымасьць прыняць удзел у ёй.

# БРАТ РАЖЭ І 100 000 АПОСТАЛАЎ

З 28 сьнежня 1994 г. да 1 студзеня 1995 г. 100 тыс. юнакоў і дзяўчатаў з усіх куткоў Эўропы (акрамя, на жаль, Беларусі — *Пілігрым*) запаланілі вуліцы Парыжу, цэрквы і станцыі мэтро. Па запрашэньню кардынала Жана-Мары Люстыжэ абшчына з Тэзэ арганізавала ў сталіцы Францыі XVII эўрапейскае спатканьне моладзі. Гісторыя такіх спатканьняў сягае 1978 г., калі ў Парыжы 15 тыс. маладых хрысьціянаў сабраліся на супольнай малітве, каб знайсьці вытокі ўнутранага жыцьця і салідарнасьці людзей. Усіх тады зьмясьцілі шанаваныя муры катэдры Нотэр-Дам. Гэтым жа разам арганізатары мусілі арэндаваць дзьве колькіпавярховыя залі на выставачнай тэрыторыі ля Porte de Versailes.

У спатканьне актыўна ўключыліся 350 каталіцкіх, пратэстанцкіх і праваслаўных парафіяў Парыжу і рэгіёну Іль-дэ-Франс. 40 тыс. удзельнікаў гасьцінна прынялі ў сем'ях. Дагэтуль такую вялікую колькасьць пілігрымаў удавалася разьмясьціць у прыватных будынках толькі ў часе спатканьня ў Вроцлаве. На 45 тыс. прыехаўшых у 1989 г. у Польшчу чакала... 50 тыс. месцаў у вроцлаўскіх сем'ях. Так што Парыж адчыніў перад моладзяй Эўропы ня толькі брамы гораду, але таксама дзьверы да сэрцаў ягоных жыхароў.

Кожны дзень спатканьня пачынаўся з малітвы ў парафіях, у якіх былі разьмешчаныя ягоныя ўдзельнікі. Затым у малых, інтэрнацыянальных групах дзяліліся яны ўласным досьведам веры; бяз дыскусіяў, але больш слухаючы адзін другога, навязвалі ланцужкі прыязьні. Па палудні ў залях на Porte de Versailles бралі ўдзел у супольнай малітве, якая адбывалася ажно ў 19 мовах (!), а пасьля яе — у спатканьнях «ля вытокаў веры», якія вялі браты з Тэзэ. Іхная тэматыка канцэнтравалася вакол будаўніцтва сям'і людзей, заснаванай на веры ў Хрыста, даверы і паяднаньні. Браты заахвочвалі моладзь браць удзел у жыцьці ўласных парафіяў і лякальных супольнасьцяў, да прыняцьця на сябе адказнасьці за іншых, і найперш самых безабаронных і апушчоных. У часе вечаровых малітваў са словамі разважаньняў зьвяртаўся да сабраных закладальнік абшчыны ў Тэзэ брат Ражэ. Таксама ён накіраваў моладзі ліст «Зьдзіўленьне любоўю», які даваў імпульс для рэфлексіяў падчас спатканьня. Ліст быў перакладзены на 51 мову, у т.л. 21 азіяцкую.

31 сьнежня да моладзі прамовіў кард. Ж.-М. Люстыжэ: «Бог ёсьць любоў і гэтая Любоў ёсьць жыцьцём людзей, вашым жыцьцём. Любіць —значыць жадаць другога з увагі на яго самога, а не дзеля ўласнага задавальненьня, для ўласнага ўжытку. Любіць — значыць радавацца, што другі чалавек існуе. Любіць — значыць знайсьці радасьць у даваньні, а не атрыманьні. Любіць — значыць рабіць для кожнага чалавека тое, што зрабіў для нас Ісус. Няма большае любові за тую, калі хтось аддае жыцьцё за тых, каго любіць. Толькі любоў дае людзям сапраўдную, нязьменную радасьць. Гэта радасьць Ісуса. Спазнаеце яе тады, калі ў Ім, разам з Ім і дзеля Яго будзеце любіць нават вашых няпрыяцеляў, тых, хто ня любіць вас. Тады таксама і ў вас настане валадарства Бога».

У навагоднюю ноч многія ўдзельнікі спатканьня бралі ўдзел у малітоўных чуваньнях у намеры міру на Зямлі. Адбываліся яны ў парафіях, якія прынялі маладых пілігрымаў. Гэтае чуваньне стала выказам салідарнасьці з усімі народамі сьвету, якія церпяць. Апоўначы сьпевам і скокамі павіталі надыход новага году.

***Павэл БЕЛІНСКІ,***
*«СЛОВО - дзеньнік каталіцкі»*

# ВЯЛІКІ ПОСТ

## УСТАНАЎЛЕНЬНЕ І ЧАС ТРЫВАНЬНЯ

Сьвяты Вялікі Пост, называны таксама Чатырохдзясятніцай, — гэта адно з найстаражытнейшых і найбольш сьвятых устанаўленьняў хрысьціянскае рэлігіі. Гісторыя Вялікага Посту доўгая, сягае апостальскіх часоў. Перадпасхальны Пост называецца Вялікім ня толькі з-за тэрміну свайго трываньня, але й з-за ягонай важнасьці й значэньня ў жыцьці Царквы і кожнага хрысьціяніна.

Ужо апосталы й першая хрысьціянская супольнасьць пачалі дзень жыдоўскай Пасхі замяняць днём памінаньня Хрыстовых мукаў і сьмерці. Гадавіны Хрыстовай сьмерці былі для іх вельмі сумным днём. Вось жа, каб належным чынам яго правесьці, яны трывалі пост. І так першая хрысьціянская Пасха пачала сваё іcнаваньне як пост. Гэта была крыжовая Пасха. Па сьведчаньню сьв.Ірынэя (к.125– к.230), пра каторае гаворыць гісторык Царквы Эўсэвій (к.260-к.340), гэты першы зародак цяперашняй Чатырохдзясятніцы тады абмяжоўваўся адным-двума днямі посту, каторы ня лічылі перадпасхальным, але самой Пасхаю. Паводле таго сьведчаньня пасхальны пост адны зьберагалі адзін дзень, другія - два дні, іншыя яшчэ даўжэй, а некаторыя 40 гадзінаў.

У пасьляапостальскіх часох Царква II і III стт. пачынае зьвяртаць увагу ня толькі на сумныя гадавіны Хрыстовае сьмерці, але й на радасныя ўгодкі Яго ўваскрасеньня. Яшчэ ў апостальскіх часох адны посьцяць у самы дзень жыдоўскае Пасхі, а іншыя ў наступную нядзелю. Па сьведчаньню гісторыка Сакрата (к.379–440), тыя, хто сьвяткавалі Пасху разам з жыдамі, г.зн. 14-га дня Нізану, сцьвярджалі, што ім гэта перададзена ад сьв. Апостала і Эвангеліста Яна; а тыя, хто сьвяткаваў сьвята Пасхі у наступную нядзелю пасьля жыдоўскай Пасхі, даказвалі, што свой звычай атрымалі ад сьв. Апосталаў Пятра і Паўла. «Але ні адны, ні другія — заўважае гісторык Сакрат, — ня могуць даказаць гэтага пісьмовымі сьведчаньнямі» Адсюль паўсталі пасхальныя спрэчкі паміж тымі, хто сьвяткаваў Пасху разам з жыдамі, і тымі, якія сьвяткавалі яе ў наступную нядзелю. Толькі Нікейскі Сабор 325 г. палагодзіў доўгія непаразуменьні.

У III ст. перадпаспахальны пост у некаторых Цэрквах трывае ўжо цэлы тыдзень. Гэта той тыдзень, каторы мы называем Страсным. У канцы III ст. Вялікі Пост ужо дасягае 40 дзён. З IV ст. паходзяць першыя ясныя сьведчаньні пра 40-дзённы перадпасхальны пост. Такое сьведчаньне дае нам Нікейскі Сабор, які кажа, каб памесныя саборы адбываліся «адзін перад Чатырохдзясятніцаю, каб па вырашэньні ўсіх неладоў чысты дар прыносіўся Богу, а другі пад восеньскі час».

Хоць у IV стаг. 40-ца ёсьць ужо вядомым устанаўленьнем, але ўсётакі не дакладна азначаная і ня мае ўсеагульнага прызнаньня. Пакуль усё яшчэ існуе пост, які стаіць пасярэдзіне паміж даўнім кароткім і 40-дзённым, а менавіта 20-дзённы пост. Ён быў перадусім у практыцы на Захадзе, дзе Чатырохдзясятніца прыжылася пазьней, як на Ўсходзе.

Пра розую працягласьць посту перад Пасхаю ў розных краёх гісторык Сакрат піша: «Пост перад Пасхаю ў розных мясьцінах захоўваюць па-рознаму, а менавіта, у Рыме перад Пасхаю посьцяць безь перапынку тры тыдні, акрамя суботы й нядзелі. У Ілірыі, па ўсёй Грэцыі і Александрыі зьберагаюць пост шэсьць тыдняў да Пасхі і называюць яго Чатыродзясятніца. Іншыя ж пачынаюць свой пост за сем тыдняў перад сьвятам Пасхі».

Дзе быў у традыцыі 6-тыднёвы пост, там яго пачыналі ў панядзелак другога тыдня нашага цяпе-рашняга посту. Пры гэтай практыцы цэлая першая наша седміца Чатырохдзясятніцы яшчэ не ўваходзіла ў пост. Па старадаўняй традыцыі Ўсходняй Царквы суботы й нядзелі ня лічыліся поснымі днямі. Таму, каб мець лік 40, пост з шасьці тыдняў падоўжылі да сямі. У канцы IV ст. перадпасхальны пост, называны Чатырохдзясятніцай, практыкуецца ўжо як ва Ўсходняй, так і ў Заходняй Царкве. Хоць гаворым пра 40-дзённы пост, але ўласна ва Ўсходняй Царкве ён трывае толькі 36 з паловаю дзён. Сем тыдняў посту бяз суботаў і нядзеляў даюць 35 дзён. Да гэтага яшчэ трэба дадаць Вялікую Суботу і палову ночы перад сьвятам Пасхі, бо гэты час таксама лічыцца посным. І тады наша 40-ца мае 36 і палаву дня, што ўяўляе адну дзесяціну цэлага году. Лацінская Царква мае 6-тыднёвы пост, бо яна й суботы залічвае да посных дзён, значыць і на Захадзе Чатырохдзясятніца мела толькі 36 дзён. Таму, каб мець поўных 40 дзён посту, Лацінская Царква у VII ст. дадала яшчэ чатыры дні на пачатку посту. Цяпер Захад пачынае свой пост у т.зв. «папяльцовую сераду», г.зн. у сераду нашага першага тыдня посту.

## МЭТА І ПРАКТЫКА ВЯЛІКАГА ПОСТУ

Наша духоўная аднова - асаблівая і найважнейшая мэта сьв. Вялікага Посту. Але ў розныя часы жыцьця Царквы былі свае адметнасьці, што да ягонае мэты.

Для апосталаў і першых хрысьціянаў дзень жыдоўскае Пасхі быў сумным напамінам сьмерці Ісуса Хрыста, таму яны праводзілі гэты дзень у малітве, смутку й посьце. Адзінства паняцьцяў Пасхі і посту трывала доўгі час. Яшчэ ў пісьменьнікаў II ст. можна заўважыць ужываньне слова Пасха ў значэньні пост. Павязаньне сумнай падзеі сьмерці з радаснаю падзеяй уваскрасеньня Хрыста Госпада пакінула свой сьлед на нашых багаслужэньнях Вялікае Суботы, калі служба посная лучыцца са службаю ўваскрэснаю.

**Пасхальны пост і катэхумэнат**

На часы III і VI стт. прыходзіцца найбольшы росквіт катэхумэнату. Катэхумэны ці пакліканыя - гэта былі тыя, хто рыхтаваўся да сьв. Тайны Хросту. Падрыхтоўка звы-

*(заканчэньне на стар.15)*

# ВЯЛІКІ ПОСТ: АГУЛЬНЫЯ ПРАВІЛЫ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ

**Час Вялікага Посту адмыслова даецца Царквою, каб мы маглі сабрацца, засяродзіцца і падрыхтавацца да сустрэчы Пасхальных дзён. Вялікім Постам трэба пастарацца навярстаць упушчанае, запоўніць прабелы ў духоўным жыцьці, якое так пацярпела ад духоўных недарэчнасьцяў, неахайнасьці, ляноты і інш. Усе ніжэй сказанае можна знайсьці ў кнігах аб духоўным жыцьці, тут толькі каротка падсумаваныя парады адносна правядзеньня Посту.**

1. Устрыманьне ад мясной ежы абавязковае. Адносна іншага трэба ўдакладніць з духоўнікам у Царкве. Акрамя таго, добра абраць якую-небудзь жыцьцёвую рэч і адмовіцца ад яе на гэтыя дні, захоўваючы ўстрыманьне да Вялікадня.

2. За час Посту неабходна прачытаць усе чатыры Эвангельлі.

3. Адмовіцца ад усіх лішніх сустрэчаў, заняткаў — усяго, што замінае засяродзіцца. Адпачынак, канешне, патрэбны, але трэба выбраць такія ягоныя формы, каторыя не парушалі б міру душы (напрыклад, прагулкі, паездкі за горад).

4. Кожны дзень чытаць малітву сьв. Ахрэма Сырына, пажадана мэдытацыйна, гэта значыць неабходна засяроджваць думкі на словах. Разважаць трэба адну невялікую частку (напрыклад: «Господи, Владыко живота моего» — тэма: Хрыстос як Альфа і Амэга жыцьця, ейны сэнс — любоў і мэта. Адчуць гэта, хоць на кароткае імгненьне).

5. Апроч малітвы сьв.Ахрэма, прысьвячаць 10 хвілінаў штодзённа (гэта мінімум, а наогул пажадана паўгадзіны) — пяць хвілінаў раніцай і пяць хвілінаў увечары — малітоўным разважаньням. Галоўнае — не прапусьціць аніводнага дня Посту. Рэкамэндуецца выбіраць выгоднае месца, выгодную паставу цела, але пры немагчымасьці гэтага адступаць ня трэба. Разважаць можна і на хаду, і на працы, і ўвечары, калі ўсе заснуць, і раніцай — адным словам, з увагі на абставіны. Вельмі важна, каб нічога не «насядала», не хвалявала неабходнасьць нешта зрабіць, не прыгнятала занадта моцная стомленасьць. Перад пачаткам разважаньня трэба пераxагнацца (зрабіць на сабе знак сьвятога крыжа — *заўв. рэд.*), калі ты дома, альбо ў думках прызваць Божае імя. Прымусіць сябе адыйсьці ад турботаў (самае цяжкае). Высілкам волі паставіць сябе перад Божым абліччам, усьвядоміць, што, дзе б мы ня былі, мы заўсёды з Ім і перад Ім. Пасьля гэтага зьвяртаем нашыя вочы да іконы ці крыжа (калі мы ня ў хаце, то паўзаплюшчваем вочы і прызываем вобраз крыжа). Неабходна, каб усе цела прыйшло ў стан пакою, ўраўнамерылася дыханьне, рухаў, апроч знаку крыжа, ня трэба. Пасьля гэтага ў думках кажам фразу з малітвы ці Эвангельля (можна зь літаніі, акафісту, літургіі — на выбар) і стараемся як мага дольш утрымліваць яе ў сьвядомасьці, абдумваючы, зыходзячы ў глыбіню, адчуваючы яе шматметную сувязь са сваім жыцьцём. Спачатку гэта будзе нялегка. Толькі на трэці тыдзень пойдзе лепш, але ня можна адступаць. І так штодня ўвесь Пост, па пяць хвілінаў раніцай і ўвечары. У крайнім выпадку час можна мяняць, але лепш выбраць адзін і той жа. Ня трэба сумаваць і зьдзіўляцца, калі ловіш сябе на няўменьні засяродзіцца: карысна лічыць сябе вучнем-пачаткоўцам, які ўпяршыню прыступае да малітоўных разважаньняў. Сьпіс малітоўных фразаў для разважаньняў добра скласьці папярэдне на тыдзень. Трэба старацца на працягу дня ў вольныя ад працы імгненьні вяртацца думкамі да тэмы разважаньняў, як бы рыхтуючыся да сустрэчы. Галоўная ўмова посьпеху — ўсталяваньне ўнутранай цішыні. Гэта самае цяжкае ў наш шумны век.

6. Пасьля пяцімінутнага разважаньня трэба пасядзець ці пастаяць проста моўчкі і засяродзіцца, як бы прыслухацца да цішыні, і потым з гэтай цішынёй у сэрцы прыступіць да справаў, але яе «гук» захоўваць як мага дольш.

7. Усе нядзельныя дні Посту абавязкова бывайце на Літургіі, не спазьняйцеся да службы. Перад набажэнствам у часе гадзінак добра прачытаць малітву:

*Веру, Госпадзе, але Ты ўмацуй веру маю. Спадзяюся, Госпадзе, але Ты ўмацуй надзею маю. Я палюбіў Цябе, Госпадзе, але Ты ачысьці любоў маю і запалі яе. Бядую, Госпадзе, але Ты зрабі, ды памножу пакаяньне маё. Ушаноўваю Цябе, майго Тварца, уздыхаю па Табе, клічу Цябе. Ты ж пакіруй мяне Тваёю мудрасьцяй, абарані і ўмацуй мяне. Аддаю Табе, Божа мой, думкі мае, ды яны зыходзяць ад Цябе. Учынкі мае няхай будуць па волі Тваёй. Прасьвяці розум мой, умацуй волю маю, ачысьці цела маё, асьвяці душу маю. Дай пабачыць грахі мае, каб ня ўпасьці ў ганарлівасьць, дапамажы перамагаць спакусы. Буду славіць цябе ва ўсе дні жыцьця майго, якія Ты даравоў мне. Амін.*

Як часта прычашчацца, трэба вырашыць разам з духоўнікам, але папярэдне неабходна рыхтавацца да агульнага прычашчэньня ў Вялікі Чацьвер, дзень Тайнай Вячэры.

8. У дні Вялікага Посту трэба асабліва узмоцніць малітву за іншых. Не прапусьціць ніводнага выпадку, калі хто-небудзь хворы, тужыць ці мае праблемы, — адразу за яго трэба памаліцца, колькі хопіць сілаў і часу.

9. Трэба асьцерагацца нераўнамернасьці: узьлетаў і зрываў. Ад гэтага будзе засьцерагаць спакойнае і сыстэматычнае паглыбленьне ў малітоўныя разважаньні. Неабходна стрымліваць сябе ў выпадках празьмернага духоўнага захапленьня, памятаць, як часта ў ім удзельнічае ня дух, але жарсьць. Гэта дапаможа зьберагчыся ад правалаў.

*Айцец Аляксандар МЕНЬ*

*Навука і рэлігія*

# «ТАМ НЯ МОЖА НЯ БЫЦЬ ВЯЛІКАГА БОГА!»

**Некаторым людзям можа падацца дзіўным, што я, навуковец і да таго ж габрэй, мог прыйсьці да Ісуса. Але для тых, чыя вера не зьяўляецца скокам у невядомае, яна заўсёды грунтуецца на сьведчаньнях. Усе людзі верац, і ўсе навукоўцы верац. Канешне, ня ўсе вераць у асабовага жывога Госпада, але кожны з нас карыстаецца сваёй уласнай меркай для веры. У кожнага з нас свой сьветапогляд, сваё веравучэньне.**

Як навуковец, я прызвычаіўся думаць лягічна і заўсёды старацца абдумваць любое пытаньне. Вось як пачаліся маё пошукі Бога. Я глядзеў у тэлескоп на Сатурн і сказаў сабе: «Там ня можа ня быць вялікага Бога!» Я адчуваў тое ж самае, калі вывучаў тэорыю адноснасьці, рэлятывісцкую астрафізыку, касмалёгію і найскладанейшыя разьдзелы матэматыкі. Яны засьведчылі мне тое, што ўвесь сусьвет дасканалы, і што ён створаны вялікім Творцам і кіруецца Ім. Наступным лягічным крокам была патрэба сустрэць гэтага Творцу тварам да твару.

У цяперашні час сярод астраномаў пануе вялікі монатэістычны настрой, і нават калі навукоўцы ня кажуць, што Бог стварыў сусьвет, яны прыходзяць да зусім яснай і выразнай высновы, што ўзьнікненьне сьвету ня было выпадковым. Тое, што дасьледчыкі называюць «вялікім выбухам», ня было касмалягічным фэйерверкам. Фізык Фрымэн Дайсан гаворыць пра гэта так: «Сусьвет, здавалася, быў створаны, у прадбачаньні стварэньня чалавецтва.»

Таму, засноўваючыся на лёгіцы, прыходзім да высновы, што мы жывем у сусьвеце, які створаны жывым Госпадам. Гэта лягічна ад пачатку і да канца. Калі справа даходзіць да Бога, многія навукоўцы зыходзяць зь меркаваньняў, якія падцьвярджаюць іх філязофію. Напрыклад, у тэорыі вялікага выбуху ёсьць непадцьверджанае дапушчэньне, якое называюць прынцыпам гамагеннасьці і каторае сьцьвярджае, што на вялікай чашы вагаў няма «цэнтру, якому б аддавалася перавага», г.зн. кожны зыходны пункт ва ўсіх адносінах эквівалентны кожнаму іншаму пункту. Гэты прынцып зьяўляецца адступленьнем ад структуры, на якую абапіраліся раньнія касмолягі ў сваіх геацэнтрычных мадэлях сусьвету.

Спынемся на гэтым падрабязьней. Вернемся да 1500 г., да перавароту, які адбыўся са зьяўленьнем працы Капэрніка. Тады дамінавала вучэньне аб геацэнтрычнай сыстэме сьвету, згодна зь якой Зямля была цэнтрам, а Сонца і ўсе зоркі круціліся вакол яе. У 1543 г. была апублікаваная рэвалюцыйная тэорыя Капэрніка, і людзі зразумелі, што жывуць у геліяцэнтрычным сьвеце (хоць геацэнтрычную сыстэму сьвету яшчэ працягвалі выкладаць у Гарвардзкім унівэрсытэце). Са зьяўленьнем геліяцэнтрычнай тэорыі чалавецтва было зрынутае з прастолу свайго цэнтральнага месца ў сусьвеце.

Многія астраномы пасьля гэтага кінуліся ў іншую крайнасьць, кажучы, што мы проста зьяўляемся «нулём» у гэтым вялізным космасе. Бо ж у галяктыцы нашага Млечнага Шляху налічваецца 100000 мільёнаў зорак. Займаючы такое нязначнае месца ва ўсёй гэтай неабдымнай прасторы, мы маглі б адчуць сябе вельмі адзінока.

Сусьвет існаваў заўсёды. Наш раньні сусьвет пашыраўся якраз да аптымальнага памеру, каб пазьбегнуць сутыкненьняў з іншымі нябеснымі целамі. Затым утварыліся галяктыкі й зоркі.

Палова зоркаў у начным небе утвараюць складаныя сыстэмы і таму ня могуць забясьпечыць жыцьця. У гэтых зорных сыстэмах ня могуць існаваць аніякія стабільныя арбіты плянэтаў. Астатняй палове зоркаў нестае 30-і парамэтраў, неабходных для падтрыманьня жыцьця. Нягледзячы на наяўнасьць мільярдаў і мільярдаў зоркаў, малаверагодна, каб яны адпавядалі ўсім варункам, якія б маглі дапусьціць існаваньне жыцьця на якой-небудзь з іх. Я б ня зьдзівіўся, калі б мы былі адзінымі жывымі разумнымі істотамі ва ўсім сусьвеце. Вядучыя эвалюцыяністы, такія, як Дабжанскі, прыйшлі да высновы, што ў чалавецтва ня было дастаткова часу, каб спантанна сфармавацца за ўвесь час існаваньня нашага сусьвету.

Мы маем сьведчаньне, якое патрабуе асэнсаваньня. Я дасьледваў яго не з эмацыянальнага пункту гледжаньня, а з пункту гледжаньня лёгікі. Мы маем гістарычнае сьведчаньне таго, што Ісус жыў і памёр, і зноў уваскрос зь мёртвых. Калі рэпарцёр спытаўся ў Альбэрта Эйнштэйна, ці прызнае ён гістарычнае існаваньне Ісуса, той адказаў: «Бясспрэчна! Нельга чытаць Эвангельле і не адчуваць сапраўднай прысутнасьці Ісуса. Яго асоба пульсуе ў кожным слове. Ні адзін міт ня поўніцца такім жыцьцём. Мяне скарыў яркі вобраз Назарэя!» Чалавеку, які ў цяперашні час шукае ісьціну, я б параіў чытаць Эвангельле непрадузята, так, як гэта рабілі Альбэрт Эйнштэйн і Ізаак Ньютан.

Шукайце ісьціну і нікому не дазваляйце прымаць рашэньняў за вас. Гэта надзвычай важна. Тое, у што вы верыце, мае аграмаднае значэньне для вас.

***Давід БЛОК,***
***«Вера и жизнь»***

*Давід Блок - доктар філязофіі, прафэсар прыкладной матэматыкі і астраноміі ў Ёханэсбурскім унівэрсытэце, мае навуковую ступень бакаляра навукаў у прыкладной матэматыцы і вылічальнай тэхніцы, ступень магістра навукаў у рэлятывісцкай астрафізыцы.*

*Узрастаньне*

## а. Грыгоры ПЛАНЧАК (Югаславія)

# СЬВЯТОЕ МЕСЦА

На Ўсходзе ў горадзе Андрыянопаль у VII стагодзьдзі жыў сабе такі дыякан Алімпій. Ён служыў у парафіі, дапамагаў сьвятарам, выконваў розную дыяканскую працу. І моцна яго ўсе любілі, бо ён быў пабожны й пакорны. Усе былі задаволеныя ім, толькі ён сабою — не. А што яму дакучала? Ён бачыў сэнс у сваім служэньні, але казаў: «Гэта не для мяне, я б хацеў яшчэ больш зблізіцца з Богам.» Так ён служыў, мучылася яго сумленьне і аднойчы вырашыў: уцяку, нікому нічога не скажу, але ўцяку. Пайшоў дадому, папрасіў у маці блаславеньня і пайшоў прэч, нікому не сказаўшы.

На другі дзень, калі ўбачылі, што Алімпія няма, і зразумелі, што сталася, моцна засмуціліся і людзі, і сьвятары, і біскупы. Сумна ім было, бо не чакалі такога ад дыякана Алімпія. І людзі, якія найбольш моцна адгукаюцца на здарэньні, пабеглі ва ўсе бакі шукаць уцекача. Шукалі, шукалі і, як кажа жыцьцяпіс, Бог адкрыў схованча Алімпія. І пачалі яго прасіць: "Што ж ты ўчыніў? Вяртайся да нас, як жа мы будзем безь цябе? Ты столькі справаў рабіў, навучаў дзяцей, моладзь". Малілі, прасілі, пераконвалі і

пераканалі. І бедны Алімпій, у сораме, з болем у сэрцы пакідае пустыню і вяртаецца назад да сваёй бацькаўшчыны, дзе ён быў дыяканам. І працягваў ён працаваць, але далей зь незадавальненьнем, з болем і сумам. І так ён днямі працаваў пры царкве, а ўвечары прыходзіў да сваёй кельлі, маліўся і плакаў. Бо быў вельмі шчыры і вельмі шчыра хацеў служыць Богу, але бачыў у сабе праблему: як спалучыць духоўнае жыцьцё з абавязкамі адносна людзей. І так вечарамі ў сьлёзнай малітве ён засынаў.

Аднойчы яму зьявіўся анёл ды кажа: «Алімпію, што з табою, чаму плачаш?» — «Вось я хачу йсьці ў пустыню, а мяне ня пускаюць. Я хачу сьвята служыць Богу ў сьвятым месцы, там, дзе нікога няма, каб мог у малітве, чуваньні й посьце служыць Богу». І тады анёл спакойна кажа: «Дарагі мой Алімпію, там толькі сьвятое месца, дзе ёсьць чалавек, які любіць Бога і жыве багабойна і багавейна, дзе ён поўнасьцю пакладае свае сілы на служэньне Богу ў працы й малітве. Там — сьвятое месца».

Нарэшце супакоілася сэрца Алімпія. Ён зразумеў, што мусіць быць там, дзе яму Бог выбраў месца, а ня там, дзе ён марыць сабе.*Сьвятасьць месца залежыць ад таго, ці любім мы Бога, ці праслаўляем мы Яго сваімі словамі, думкамі, учынкамі на тым месцы, дзе Бог паставіў нас. Ня месца робіць нас сьвятымі, а мы сваім жыцьцём асьвячаем тое месца, дзе жывем.*

# СПАКОЙНАЕ СЭРЦА

[...] *Увесь сэнс жыцьця — палюбіць Бога, каб нашае сэрца выбрала Яго і Госпад аб'явіўся нам.* Часта ўглядайся ў сваё сэрца, куды зьвернутыя ягоныя вочы: да Бога, да нябеснага жыцьця ці да людзей, марных справаў, матар'яльнага сьвету. Таму стараемся прыняць сваё жыцьцё там, дзе яно ёсьць і такім, якім яно ёсьць. *Нічога не старайцеся зьмяніць, але мяняйце толькі сябе, і тады зьменіцца ўсё навокал нас так, як таго хоча Бог.* Нашае сэрца мусіць супакоіцца, прымірыцца, а тады свабодна і да канца аддацца Богу, каб Бог пусьціў у ім карэньні ў глыбіню, у шырыню, у дыўжыню. І тады Госпад нас зьменіць. А калі зьменіць нас, то зьменіць і іншых, якія жывуць з намі. Зьменіць паводле Сваёй волі.

Вось гэта і ёсьць новая эвангелізацыя.

Цяпер прызнаемся сабе, чаго б мы хацелі. І калі б мы марылі пра іншае месца, жыць у іншых умовах, то прыгадаем словы анёла да Алімпія. І ня будзем больш раздумваць пра сябе, але толькі пра тое, як выканаць Божую волю. Будзем правяраць сваё сэрца і прыкладаць усе высілкі, каб у нашых думках, пачуцьцях, пажаданьнях прысутнічаў Бог, каб нашыя ўчынкі былі скіраваныя да Яго. І тады мы ня будзем шукаць прыемнасьцяў жыцьця, але Хрыста церпячага й уваскрослага. *Трэба цешыцца, што Госпад паклікаў нас да жыцьця і дзякаваць Богу. А быць удзячным Богу — значыць рабіць тое, што да спадобы Яму.*

# ХРАМ БОЖЫ

Цяперашняя навука пра Божую прысутнасьць у нашай душы вучыць, што мы ёсьць храмам Духа Сьвятога, што мы ёсьць Ківотам Бога. І гэта — галоўная праўда, якую мы мусім памятаць заўсёды, калі прыступаем да малітвы, калі прычашчаемся. Сьвятое Прычасьце аднаўляе ў нас храм Бога, Храм Найсьвяцейшай Тройцы. Ісус Хрыстос устанавіў Сьв. Прычасьце, каб прывесьці нас да ўсьведамленьня і каб мы паверылі, што Госпад хоча жыць у нашым сэрцы.

У Старым Запавеце Госпад жаліўся, што той народ ня мае Духа ў сабе, што ён халодны, ня мае Бога ў сэрцы. Усе нашыя памкненьні ў духоўным жыцьці мусяць быць скіраваныя на тое, каб мы як найбольш памяталі, што ёсьць храмам Божым і мусім сьвяціцца сьвятлом Божае любові. Гэта значыць, што згодна таго ўсьведамленьня трэба і паводзіць сябе. Уявім, што ўсе ведаюць, што я ёсьць Храмам Найсьвяцейшай Тройцы, што Бог жыве ўва мне, і чакаюць, што я магу адказаць, як маем пaступаць. Не магу я тады казаць глупстваў, грашыць словамі і ўчынкамі, калі Бог жыве ўва мне.

Але ёсьць яшчэ адна праўда, якую хочам падкрэсьліць: наш бліжні таксама ёсьць храмам Божым. Ісус казаў:

«Я ёсьць твая душа». Значыць, Ісус ідэнтыфікаваў сябе з намі. У службе Божай мы прывыклі, што калі сьвятар асьвячае дары, то, як свае, вымаўляе словы Ісуса. Там ён ніхто іншы, як Ісус. Іншымі словамі, Хрыстос прысутны ў сьвятары. Але гэта прывілей ня толькі сьвятара. Хрыстос ідэнтыфікуецца з кожным з нас, кажа: «Я – твая душа, Я прысутны ў тваіх пачуцьцях любові да Мяне». Гэта вельмі глыбокае, містычнае паняцьце, і яго нельга зразумець інтэлектам. Што гэта так, пабачце ў Сьвятым Пісаньні, у Адкрыцьці, якое ёсьць фундамантам для нас. [...] Праведнікам Ён кажа так: «Прыйдзіце, блаславёныя Айца майго, вазьміце ў спадчыну царства, што было прыгатаванае вам ад стварэньня сьвету. Бо я быў галодны, і вы накармілі Мяне. Прагнуў піць, і вы напаілі Мяне. Чужынцам быў, і вы прынялі мяне. Распрануты быў, і вы апранулі Мяне. Хворы быў, і вы адведалі Мяне. Увязьнёны быў, і вы прыйшлі да Мяне». Тады спыталі праведнікі Яго:«Госпадзе! Калі мы бачылі Цябе галодным і накармілі, спрагнёным і напаілі? Калі мы бачылі Цябе чужынцам і прынялі, распранутым і апранулі? Калі мы бачылі Цябе хворым або ў вязьніцы і прыйшлі да Цябе?» А Ўладар сказаў ім у адказ: «Сапраўды кажу вам: усё, што вы зрабілі аднаму з Маіх найменшых братоў, зрабілі і Мне».

Ісус ідэнтыфікуецца з кожным чалавекам, таму кожны з іх ёсьць для мяне Хрыстом у тым сэнсе, што Ісус злучаецца з кожным чалавекам і вымагае ад мяне, каб я адносіўся да кожнага чалавека, як да Яго самога. Ісус вымагае, каб да бліжніх мы ставіліся ня як да людзей, але як да Ісуса Хрыста. Гэтая страшная праўда ўражвае, бо сьведчыць нам, як мала мы пра гэта думаем і як далёка мы жывем ад гэтага.

Мы мусім запомніць дзьве рэчы, якія кардынальна зьмяняць нашае жыцьцё: 1. Я ёсьць храмам Духа Сьвятога, храмам Бога і не павінен яго абразіць нічым – ані словам, ані думкаю, ані позіркам, ані ўчынкам; 2. Мой бліжні ёсьць храмам Бога. Я не павінен сказаць благога слова, мець благую думку, не павінен жадаць яму нечага благога. Наадварот, да сваіх бліжніх, бяз розьніцы, хто яны, мушу ставіцца як да Ісуса Хрыста.

[...] Я ёсьць храмам Бога, мой бліжні ёсьць храмам Бога.. — Значыць, мы павінны быць вельмі шчасьлівымі людзьмі. Бог у нас, Бог у нашых бліжніх, мы — на небе. Сьвяты Павал кажа, што ўгары ёсьць неба, тут ёсьць зямля, а ўнізе — пекла. Д'ябал прыйшоў зьнізу, Бог — згары, і йдзе барацьба дабра са злом.

У 139 Псальме гаворыцца пра прысутнасьць Бога ўсюды. Калі мы спазнаем, што Бог ува мне, Бог наўкол мяне, Бог у маіх бліжніх, то такое адкрыцьцё дае нам і супакой, і раўнавагу. Ісус гаворыць: «Там, дзе двое ці трое сабраныя ў Маё імя, там Я прысутны паміж вамі». Я паміж вамі — гэта такая прысутнасьць, якая прасякае ўсё, злучае прысутных у адно, перaймае ўсю матэрыю, дзе яна знаходзіцца..Сьвяты Павал кажа: «Калі людзі асьвячаюцца, то асьвячаецца ўвесь сусьвет». Мы ўсе ідзём да вялікага асьвячэньня. Увесь сусьвет чакае той хвіліны, калі Хрыстос пераменіць цэлае чалавецтва, каб і сусьвет перамяніўся з намі. Перш ад усьведамленьня, што Бог ёсьць ува мне, Бог ёсьць у маім бліжнім, Бог ёсьць Той, хто нас яднае і паўсюль перабывае. Тады няма месца для д'ябла.

*Мінулае*

# УНІЯ НА ПАДЛЯШШЫ

Заканчвалася XVIII стагодзьдзе. Амаль дзьвесьце гадоў мінула, як праваслаўныя хрысьціяне ўсходняга абраду ў Вялікім княстве Літоўскім і Кароне вярнуліся да еднасьці з усёй Сусьветнай Царквой. Канец XVIII стагодзьдзя для нашых земляў азнаменаваўся крывавымі разборамі Рэчы Паспалітай - агульнай фэдэратыўнай дзяржавы беларускага, летувіскага, польскага і ўкраінскага народаў. Адразу ж па захопе беларускіх земляў імпэратрыца Кацярына II пачала праводзіць палітыку жорсткай русіфікацыі і ўціску Ўніяцкае Царквы.

Радыкальная расправа з Уніяй наступіла пасьля вызвольнага паўстаньня 1831 г., а на Падляшшы - пасьля Студзеньскага паўстаньня 1863 г., больш вядомага на Беларусі як паўтаньне Кастуся Каліноўскага. Спачатку ўлады забаранілі ўніятам пераходзіць у лацінскі абрад і ліквідавалі некалькі епархіяў, а пасьля, у 1839 г., гвалтоўна далучылі ўсю Ўніяцкую Царкву да Расійскай Праваслаўнай. У Каралеўстве Польскім грэка-каталіцкай засталася толькі адна Холмская епархія. Яна прасьцягалася ў асноўным на тэрыторыю дзьвюх лацінскіх дыяцэзіяў - Люблінскай і Падляскай. Трэба адзначыць, што лацінізацыя ўсходняга абраду на Падляшшы дасягнула значна большае ступені, чым на астатняй частцы Беларусі. Замойскі памесны сабор 1720 г. увёў ва Ўніяцкай Царкве сьвятканаваньне ўрачыстасьці Божага Цела, практыку Ружанца, Крыжовай Дарогі, ужываньне падчас Літургіі дзваночкаў, арганаў, у цэрквах зьявіліся канфэсыяналы, прынятыя ў лацінскіх касьцёлах. Гэта скарысталі царскія ўлады.

У 1863 г. рэпрэсіі акупантаў ахапілі ўвесь Падляскі край. У чэрвені таго ж году варшаўскі архібіскуп Зыгмунт Фелінскі быў высланы на 20 гадоў у Яраславаль. Дэкрэтам ад 22 траўня 1867 г. цар Аляксандар II ліквідаваў Падляскую епархію, а ў Расійскай імпэрыі - Менскую і Камянецкую дыяцэзіі лацінскага абраду. Многія лацінскія біскупы аказаліся на выгнаньні. Уніяты таксама апынуліся ў драматычнай сытуацыі.

Царскія ўлады любым чынам імкнуліся загнаць грэка-каталікоў у Праваслаўную Царкву. Лічылі за лепшае дзеля рэалізацыі сваіх плянаў знайсьці прыхільнасьць уніяцкага духавенства. Таму спачатку стараліся прыцягнуць іх абяцаньнямі і дробнымі ўступкамі. Потым жа сталі запугваць і ўжываць адміністрацыйны ўціск.

Сьведчаньнем гэтаму стала забарона кансэкрацыі на біскупа а.Яна Каліноўскага, якога сьвяты айцец Пій IX прызначыў каад'ютарам ва ўніяцкай Холмскай епархіі. З прычыны яго вернасьці Апостальскай Сталіцы і абароны епархіі ад далучэньня да Праваслаўя ён быў арыштаваны ў 1866 г. і вывезены ў глыб Расіі ў Вятку, дзе празь месяц памёр.

Расійскія ўлады стараліся зламаць рашучую паставу ўніяцкіх сьвятароў абмежаваньнямі ці пазбаўленьнем магчымасьці праводзіць душпастырскую працу. Вернікі былі рашуча настроеныя трымацца Ўніі. Ня гледзячы на паліцэйскі надзор і прысутнасьць разкватэраванага па розных вёсках войска, уніяты патаемна зьбіраліся, каб маліцца і вызначаць агульны, аднародны спосаб дзеяньняў. Разам вырашылі не дапушчаць праваслаўных духоўных ва ўніяцкія цэрквы. У выпадку ж прымусовага насаджэньня сьвятара, пастанавілі не хадзіць у храм і не карыстаць зь ніякіх рэлігійных паслугаў праваслаўных. У сумніцельных выпадках мусілі пераканацца, ці служыць сьвятар адпаведна правілаў Замойскага сабору.

Перасьлед уніятаў пачынаўся звычайна з ачышчэньня абраду ад лацінскіх уплываў. Потым жа ўлады пачыналі дамагацца афіцыйнай прыналежнасьці да Праваслаўя.

Кульмінацыяй перасьледу ўніятаў стала мучаніцтва многіх з іх у Дрэлёве і Пратуліне ў 1874 г.

Палёгку ўніятам прынёс толькі 1905 г., калі цар Мікалай II, змушаны быў выдаць 30 красавіка т.г. талеранцыйны ўказ. Хоць вывананьне ўказу на практыцы было недасканалым, але ўсё ж многія ўніяты, сілай навернутыя да Праваслаўя, вярнуліся тады ў Каталіцкую Царкву. Многія з іх прымалі нават лацінскі абрад, каб у будучыні захаваць сябе ад магчымых рэпрэсіяў палітызаванага Праваслаўя.

На тэрыторыі Падляскай епархіі, адноўленай у 1918 г., было арганізавана 10 парафіяў усходняга абраду. Яны паўсталі ў гэткіх мясьцінах: Голя, Бубэль Стары, Кіёвец, Палоскі, Тэрэспаль, Заблоце, таксама ў Кастамлотах, Дакудаве, Шустцы і пры касьцёле Сьвятога Духа ў Кодню. Гэта былі малалікія парафіі. Усе разам яны налічвалі ў 1936 г. 1730 вернікаў. Сьвятароў было дзесяць. Пасьля другой сусьветнай вайны з-за вялікай міграцыі людзей уніяцкія парафіі зьніклі. Засталася толькі адна - у вёсцы Кастамлоты каля Кодню, якая налічвае цяпер каля трохсот вернікаў.

*Працяг будзе.*

<u>*Апрацавана паводле кнігі:*</u>
*Ks.Kazimierz Matwiejuk. O beatyfikacje slug Bozych: Wincentego Lewoniuka i dwunastu towarzyszy meczennikow podlaskich.*

**УШАНАВАНЬНЕ ПАДЛЯСКІХ МУЧАНІКАЎ**

Урачыста была адзначаная ў Сядлецкай рыма-каталіцкай епархіі (Польшча) 121-я гадавіна мучаніцкай сьмерці падляскіх уніятаў у вёсках Дрылеў і Пратуліна. У выдадзеным з гэтае нагоды камунікаце біскуп Ян Мазур паінфармаваў, што бэатыфікацыйны працэс Вінцэнта Леванюка і яго таварышоў «ідзе да выніковага завяршэньня».

Бэатыфікацыйны працэс падляскіх мучанікаў пачаў пасьля I сусьветнай вайны бп. Генрык Пшэзьдзецкі. Тады ўдалося сабраць сьведчаньні відавочцаў мучаніцтва. Сьмерць біскупа ў траўні 1939 г. і пачатак II сусьветнай вайны, а пазьней панаваньне камуністычных уладаў зрабілі немагчымым заканчэньне працэсу. Толькі ў 1964 г. яго аднавіў бп. Ігнацы Сьвірскі. 8 лютага м.г. Кангрэгацыі кананізацыйных справаў у Рыме было перададзена абшырнае гістарычнае дасьледваньне праф. Ганны Дылянговай, а таксама асноўныя матэрыялы працэсу.

Парафіяльны касьцёл у Пратуліне, куды ў 1990 г. пасьля эксгумацыі былі перанесеныя рэшткі мучанікаў, і месца, дзе іх замардавалі, усё часьцей наведваюць пілігрымы з усёй Польшчы і замежжа. Як падае мясцовы пробашч а.Анджэй Філіпюк, здараюцца выпадкі асаблівых ласкаў, атрыманых за заступніцтвам слугаў Божых Вінцэнта Леванюка і 12 ягоных таварышаў.

***(KAI)***

# БІБЛІЙНЫ КАТЭХІЗМ

## для дзяцей

Паводле Сьцяпана Папа

Царква

### Стварэньне нябачнага сьвету

Сьвятое Пісаньне гаворыць, што Господ Бог стварыў неба і зямлю — свет бачны і нябачны. Неба — нябачны сьвет, а ў ім ёсьць шмат **анёлаў**.

Анёлы — гэта духоўныя істоты, якія маюць розум і свабодную волю, але ня маюць цела. Госпад Бог стварыў анёлаў дзеля таго, каб Яго яны праслаўлялі, Яму служылі і каб захоўвалі людзей ад злога.

Кожны чалавек мае свайго **анёла-заступніка**, які з Божае волі суправаджае чалавека ўсё жыцьцё. Анёлы любяць нас і захоўваюць ад злога. Яны моляцца за нас і заахвочваюць нас да дабра. Анёлаў нельга ўбачыць, таму іх малююць з крыламі, каб адрозьніць ад людзей. Насамрэч яны ня маюць крылаў, бо ня маюць целаў.

Спачатку ўсе анёлы былі добрымі і служылі Богу. Але з часам адзін з іх, каторага завуць Шатан, заганарыўся і захацеў быць такім, як сам Госпад Бог. Шатан зьвеў за сабою шмат анёлаў. Супраць іх выступілі тыя анёлы, што засталіся верныя Богу, і пад кіраўніцтвам арханёла Міхаіла перамаглі бунтароў. Госпад Бог пакараў злых анёлаў вечным пакараньнем ў пекле. Яны ненавідзяць і баяцца Бога, імкнуцца шкодзіць людзям. Мы іх называем д'ябламі, шатанамі, нячысьцікамі, злымі. Злыя духі спакушаюць нас да благога і стараюцца прынесьці шкоду нашай душы.

Са Сьвятога Пісаньня вядома, што анёлы падзяляюцца на дзевяць лікаў, зь якіх найчасьцей узгадваюцца анёлы, арханёлы, хэрувімы і сэрафімы.

*Пытаньні для паўтарэньня*

1. Хто такія анёлы?
2. Дзеля чаго Бог стварыў анёлаў?
3. Ці ўсе анёлы засталіся сьвятымі, вернымі Богу?
4. Як ставяцца анёлы да нас, людзей?
5. Як называецца анёл, дадзены кожнаму з нас Госпадам Богам для нашае аховы?

Малітва:

О, Анёле, Дружа мой!
Ты заўсёды пры мне стой;
Рана, ўвечар і ўначы
Будзь ласкаў мне памагчы
Змагаць духа злога,
Верна служыць Богу,
Любіць маму, тату,
Край і родну хату.

# СТАРЫ ЗАПАВЕТ

## Стварэньне сьвету

Бог стварыў неба й зямлю. Дом, у якім ты жывеш, быў не заўсёды. Яго пабудавалі колькі гадоў таму. Раней тут, можа быць, была старая драўляная старая хата. А яшчэ раней — поле, луг, ці лес. А быў і такі час, калі ня было ні гарадоў, ані вёсак, ані лугоў, ані лясоў, ня было нават чалавека. Ня было зямлі, на якой мы цяпер жывём. Ня было небасхілу, ні Сонца, ні Месяца, ні зорак. Анічога ня было. Але ўсё ж Нехта быў заўжды. Гэта — Госпад Бог! І тое ўсё, што мы бачым цяпер навокал сябе: неба, зямлю і ўсё, што ёсьць на іх, — стварыў Госпад Бог. Таму мы называем Бога **Творцам неба і зямлі**. Слова *стварыць* азначае стварыць нешта зь нічога.

Як адбылося стварэньне сьвету, людзі даведаліся ад Госпада Бога, бо Ён абвясьціў ім гэтае і сказаў запісаць тое ў кнігі, якія мы называем **Сьвятым Пісаньнем – Бібліяй.** Вось як Сьвятое Пісаньне апавядае пра стварэньне сьвету:

На пачатку стварыў Бог неба і зямлю. Зямля спачатку была пустою. Паўсюль была цемра. І сказаў Госпад Бог: «Няхай будзе сьвятло!» — І зьявілася сьвятло. І адзьдзяліў Бог сьвятло ад цемры і назваў сьвятло днём, а цемру ночай. Гэта быў першы дзень. За шэсьць дзён Бог стварыў неба, і зямлю, і мора, і ўсё, што ёсьць у іх: расьліны, зьвяроў, птушак, а ў канцы — чалавека. У сёмы дзень Бог перастаў тварыць, блаславіў сьвет і прызначыў гэты сёмы дзень для адпачынку. Мы яго называем **нядзеляй**. Нядзеля — гэта Божы дзень, таму ў гэты дзень мы, хрысьціяне, не працуем, але йдзем на Службу Божую да царквы. Дні стварэньня сьвету ня былі такімі, як вядомыя нам 24-гадзінныя дні, але былі яны нявызначанымі па працягласьці адрэзкамі часу.

Стварэньне сьвету яскрава сьведчыць нам, што Бог — усемагутны. Мы ж — не, бо толькі з чаго-небудзь можам зрабіць нейкую рэч.

*Пытаньні для паўтарэньня:*

1. Чаму мы называем Бога Тварцом неба і зямлі?
2. Што азначае слова стварыць?
3. Хто распавёў людзям пра стварэньне сьвету? Дзе ўсё гэта запісана?
4. Што Госпад Бог стварыў спачатку?
5. За колькі дзён Бог стварыў сьвет? Для чаго прызначыў Ён сёмы дзень?
6. Як мы называем сёмы дзень? Што мы робім у гэты дзень?
7. Чаму Госпад Бог ёсьць усемагутным?

Малітва: **Ойча наш, каторы ёсьць у небе, сьвяціся імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая як у небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня, і адпусьці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым, і ня ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амін.**



# ПЕРШАЯ НАВУКА

Давайце заўсёды вітацца па-хрысьціянску:

СЛАВА ІСУСУ ХРЫСТУ! —
На што адказваем: СЛАВА НАВЕКІ!

**Калі ж прыходзіць час Божага Нараджэньня, Калядаў, то вітаемся так:**

ХРЫСТОС НАРАДЖАЕЦЦА! — СЛАЎЦЕ ЯГО!

А ў Вялікодным часе вось гэтак:

ХРЫСТОС УВАСКРОС! — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Знакам нашае веры ёсьць **Крыж**.

Чаму? — Бо на крыжы дзеля збаўленьня людзей памёр Госпад наш Ісус Хрыстос.

Знак сьвятога крыжа на сабе робім вось гэтак:

Тры першыя пальцы правае рукі складзем разам, адзін да аднаго, а два апошнія пальцы прыцісьнем да далоні. Паднясем руку да ілба і кажам: У ІМЯ АЙЦА; затым кладзем правую руку на грудзі й кажам: І СЫНА; потым са словамі: І СЬВЯТОГА кладзем руку на правае плячо, а са словамі: ДУХА. АМІН — на левае плячо. Калі робім знак сьвятога крыжа, то ў сьведчаньне нашае пакоры і паслушэнства Госпаду крыху схіляем галаву. Апошняе слова гэтае малітвы — АМІН — азначае: няхай будзе так!

У ІМЯ АЙЦА, І СЫНА, І СЬВЯТОГА ДУХА. АМІН.

Калі робім на сабе знак сьвятога крыжа (ці жагнаемся, як яшчэ кажуць беларусы), то вызнаём сваю веру ў Бога і клічам Яго на дапамогу. Таму будзем жагнацца раніцай, як толькі прачынаемся, увечары, як кладземся спаць, перад пачаткам кожнай справы, у небясьпецы, перад тым, як адправіцца ў дарогу. Гэта таксама й малітва, вельмі кароткая але карысная.

*Пытаньні для паўтарэньня:*

1. Як мы вітаемся па-хрысьціянску?
2. Які ёсьць найважнейшы знак нашае веры? Чаму?
3. Як робім на сабе знак сьвятога крыжа?
4. Што мы вызнаем, калі жагнаемся?

Малітва:

Сьвяты Божа, Сьвяты Моцны, Сьвяты Нёсьмяротны, зжалься на намі.

*(заканчэньне, пачатак на стар.8)*

чайна трывала тры гады і ўрачыста заканчвалася ў Чатырохдзясятніцу. Галоўнымі актамі таго заканчэньня былі наданьне імя пакліканаму на пачатку Чатырохдзясятніцы, штодзённае заклінаньне яго ад злых духаў на працягу ўсяго посту, апошняе настаўленьне яго ў праўдах сьв. веры і іспыт, і ўрэшце — само хрышчэньне ў Вялікую Суботу.

Стаць праз сьв. Хрост хрысьціянінам і членам Царквы — гэта была нязвычайная падзея ў жыцьці новаахрышчаных і ў жыцьці Царквы. Таму гэтая радасная падзея звычайна лучылася зь вялікімі сьвятамі, як Пасха, Сёмуха, Богаяўленьне. У III стт. абрад хросту зьвязваўся перадусім са сьвятам Пасхі. Пакліканыя рыхтаваліся да хросту пастом і малітваю. Пад уплывам катэхумэнату перадпасхальны пост працягнуўся да 40 дзён. З часам і іншыя вернікі сталі трываць пост разам з пакліканымі. Пра звычай вернікаў пасьціць разам з катэхумэнамі гаворыць сьв.муч.Юстын (+167). Ён кажа, каб тых, якія навяртаюцца да хрысьціянскае веры, «навучаць, каб яны малітваю і пастом прасілі ў Бога прабачэньня мінулых грахоў, і мы молімся й посьцім разам з імі.»

### Вялікі пост — подзьвіг душы і цела

Устанаўленьне катэхумэнату чнілася ня толькі да працягненьня Вялікага Посту да 40 дзён, але таксама й да таго, што з часам усе вернікі пераналі гэтую традыцыю ад пакліканых і ён стаў для ўсёй Царквы перадпасхальным постам. Пазьней, калі катэхумэнат страціў у асноўным свайго значэньня, Чатырохдзясятніца становіцца самастойным устанаўленьнем. Яна цяпер для ўсіх вернікаў ёсьць часам асаблівай малітвы, посту й пакуты, і духоўнага прыгатаваньня да сьвята Пасхі. Гэтае настаўленьне Царквы знайшло сваю найпрыгажэйшую праяву ў нашых посных багаслужэньнях, звычаях і практыках.

### Посныя багаслужэньні

Яны адрозьніваюцца ад звычайных багаслужэньняў тым, што маюць больш малітваў, больш псальмоў і больш чытаньняў, перадусім са Старога Запавету. Увесь Псалтыр на багаслужэньнях перачытваецца за тыдзень двойчы. Самае важнае тут, што з усіх посных набажэнстваў прабіваецца вялікі дух пакуты й жалю за грахі. Посныя вершы на вячэрні ці ютрані сваім зьместам або аплакваюць падзеньне чалавека да граху, або заклікаюць да пакуты й жалю, або славяць карысьць посту й добрых справаў і заклікаюць да панаваньня над пачуцьцямі й практыкі дабрадзействаў.

Яшчэ ў першых стагодзьдзях пачаўся звычай пакідаць у часе посту служэньне сьв.Літургіі, бо тады яна йшчэ лучылася з агапаю - браталюбным пачастункам, што не адпавядала духу посту. Акрамя таго, Літургію ўважалі за радаснае таінства, таму яе служэньне абмяжавалі толькі суботаю ды нядзеляй. У іншыя дні нядзелі, каб даць вернікам нагоду да сьв.Прычасьця, замянялі сьв.Літургію іншымі набажэнствамі, зь якіх паступова разьвілася Літургія Ранейасьвячаных Дароў. Яна ня ёсьць Літургіяй ва ўласьцівым значэньні слова, бо ня мае асьвячэньня, але ёсьць хутчэй Вячэрняй, злучанай са сьв.Прычасьцем, хлеб якога быў ужо перад гэтым асьвячаны. Адсюль і назва гэтае Літургіі.

Час Вялікага Посту - гэта для кожнага хрысьціяніна час духоўнае барацьбы, у якой бяруць удзел і душа, і цела. Душа бярэ ўдзел праз рэўную малітву й разважаньні, праз чуваньні, практыку дабрадзействаў і добрых учынкаў. Гэтае ўнутранае настаўленьне душы зьнешне праяўляецца праз пост і пакуту для нашага цела. Без умярцьвеньня цела няма духоўнага посту. «Сколькі адымеш ад цела, — кажа сьв.Базыль Вялікі, — столькі дадасі сваёй душы бляску духоўнага здароўя. Бо не павялічэньнем моцы ў нашым целе, але вытрываласьцяй душы і цярплівасьцяй у прыкрых досьведах здабываем сілу супраць нябачных ворагаў.»

Традыцыйная практыка посту ў Царкве адбываецца двума спосабамі: альбо праз поўнае ўстрыманьне ад усялякай ежы й піцьця да нейкага азначанага часу, і гэта ёсьць уласна пост, альбо праз адмову толькі ад некаторых страваў бяз ўвагі на час спажывы, што называем абстынэнцыяй.

### Уласна пост

Спачатку ні час трываньня, ні спосаб і практыкі Вялікага Посту ня былі абумоўленыя нормамі ці правіламі Царквы. Гэта пакінулі на добрую волю вернікаў, таму розныя парознаму пасьцілі. Гісторык Сакрат дае нам такое сьведчаньне пра спосаб посту ў IV–V стт.: «Розьніца адносіцца ня толькі да ліку посных дзён, але й да разуменьня стрыманасьці ад страваў. Таму што адны стрымліваюцца ад спажываньня ўсякага роду тварных, другія з усіх жывых стварэньняў ядуць толькі рыбу, іншыя разам з рыбаю спажываюць і птушак, бо кажуць, што птушкі, паводле словаў Майсэя, таксама выйшлі з вады. Адны не ядуць гародніну і яйкі, другія жывуць толькі сухім хлебам, некаторыя і таго ня прымаюць, а іншыя йшчэ посьцяць да 9-й гадзіны (значыць да трох гадзінаў папалудні) і потым ядуць усялякую ежу.»

Апошнія словы сьведчаньня Сакрата паказваюць, што істотным у посьце у яго часы ня быў род страваў, але працяглась часу поўнай адмовы ад ежы. Іншымі словамі: істотным у посьце было тое, што ўдзень елі толькі аднойчы, звычайна па трэцяй гадзіне папалудні альбо пасьля заходу сонца. «Да вечара чакаеш бязь ежы, - кажа сьв.-Базыль Вялікі, - а цэлы дзень адсіджваеш у судзе.» А сьв.Ян Залатавусны кажа: «Ніхто з нас ня будзе думаць, што аднае спажывы нам хопіць для спасеньня.»

У манастырох, дзе ўвесь год елі толькі раз на дзень, у Чатырохдзясятніцу манахі ня елі па некалькі дзён. Паломніца Сільвія (IV ст.) гаворыць пра ерузалімскіх манахаў, што некаторыя з іх у пост «прыняўшы спажыву пасьля Літургіі ў нядзелю, не ядуць аж да суботы».

### Устрыманьне ад некаторых страваў

Пры паўнадзённым посьце першапачаткова вернікі елі ўвечары ўсякую ежу. Але ўжо недзе ў V стаг. уваходзіць звычай абмежаваньня і ў родзе страваў. Гэта сталася пад уплывам практыкі манахаўпустыньнікаў. Звычайна ежаю ў пустыньнікаў былі хлеб, вада й гародніна. Паломніца Сільвія кажа ў сваіх успамінах, што ерузалімскія манахі у часе Чатыродзясятніцы «не ядуць ані крошкі хлеба, ні алівы, ні гародніны, але толькі ваду й крыху мучной юшкі.» У суботы й нядзелі Вялікага Посту ня было агульнага посту, але толькі абстынэнцыя.

Другі Ватыканскі Сабор моцна спрасьціў патрабаваньні, што да пастоў, у т.л. Вялікага Посту. Цяпер Царква вымагае абавязкова пасьціць толькі ў сераду і пятніцу. Але многія вернікі, асабліва старэйшыя і моладзь, імкнуцца трымацца старадаўніх традыцыяў. Пахвальнае жаданьне! Адначасова трэба добра сабе ўсьведамляць, што галоўнай мэтай царкоўнага посту зьяўляецца зусім не адмова ў любым выглядзе ад ежы, але найперш адмова ад грэшных учынкаў, змаганьне са спакусамі і прывязанасьцямі ў гэтым сьвеце, далучэньне праз духоўнае ачышчэньне да тайны Ўцелаўленьня, Укрыжаваньня і Ўваскрасеньня.

*Апрацавана паводле кнігі*
*а.Юліяна Катрыя*
*"Пізнай свій обряд"*

*Кнігі*

### АПОСТАЛ ЯДНАНЬНЯ І ВЕРЫ

**Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. – Мн., 1994.**

"Вернікі ўсходняга абраду [...] знаходзяцца ў духоўнай залежнасьці ад канстантынопальскага патрыярха..."

"Усе вернікі ўсходняга абраду лічаць Рым галоўнай сталіцай Хрысьціянства, а папу рымскага — першасвятаром".

*З праекту рашэньня аб узьяднаньні неадбыўшагася Львоўскага сабору. (С. 56)*

Вось дзе праўда пра Грэка-Каталіцкую Царкву. Гэта значыць: пастаянна знаходзіцца ў еднасьці зь дзьвюма хрысьціянскімі сталіцамі. Вось шлях да еднасьці, па якім пастаянна мусімісьці. Існаваньне гэтае еднасьці ў мінулым — гістарычны факт, і тое, што маем вярнуцца да яе — таксама факт.

Вяртаньне да еднасьці было мэтаю ўсяго жыцьця Язэпа Руцкага. У кнізе Івана Саверчанкі чытач знойдзе шмат цікавага з часоў станаўленьня Уніі, спазнае дзіўны жыцьцёвы шлях Язэпа Руцкага, ад пратэстанцкага выхаваньня да пасады мітрапаліта.

***Ст.***

### НАВУКА І РЭЛІГІЯ

**Гарошка Л. Навука і рэлігія. — Дрэтома – Друя, 1994.**

Кніга прысьвечаная праблемам узаемадачыненьняў веры й навуковых ведаў. Напісаная ў 40–50 гадох, упяршыню яна выйшла ў Рыме ў 1977 г., амаль перад самай сьмерцю а.Льва Гарошкі. Цяпер гэтую працу перавыдалі айцы марыяне з Польшчы ды Славаччыны.

У сваёй кнізе а.Леў на прыкладах выказваньняў выдатнейшых дасьледчыкаў імкнецца паказаць, што навука і рэлігія не зьяўляюцца антаганістычнымі паняцьцямі, што сучасная навука крок за крокам падцьвярджае існаваньне Бога. Кніга надзвычай актуальная цяпер, бо сучасная беларуская навука ў асноўным трымаецца марксыстоўскага пастуляту, што толькі яна, навука, зьяўляецца шляхам да пазнаньня сьвету, а рэлігія ня можа мець аніякіх адносінаў да практычных ведаў.

***М.***

### Працы а.Льва Гарошкі, апублікаваныя на Беларусі:

Няўміручая ідэя: Гістарычны нарыс// Унія. 1990. №2.

Слуцкі фронт: Кароткі гістарычны нарыс Слуцкага ўздыму 1917–1921 гг./ / Звязда. 1992. 24 лістап.

Душа: Кароткі апалягетычны нарыс/ / Хрысьціянская думка. 1993. №3.

Прычыны палянізацыі на Беларусі// Сьвіцязь. 1994. №1.

Дахрысьціянская вера нашых продкаў: Прычынкі да беларускае міталёгіі// Крыніца.1994. №8.

Рэлігійны элемэнт у беларускай народнай творчасьці// Спадчына. 1994. №5.

### НАВІНЫ З УСЯГО СЬВЕТУ

У часопісе Solanus (New Series, vol.8, 1994), выданьні Славістычнае школы лёнданскага ўнівэрсытэту, зьмешчаны артыкул а.Аляксандра Надсана «Рэлігійныя плыні і кнігі на Беларусі XVI-га стагодзьдзя». Тэма апрацаваная на першакрыніцах і навуковай літаратуры, дае добрае ўяўленьне пра росквіт беларускае культуры ў XVI стаг.

Рэлігійнае жыцьцё тае далёкае пары мае безпасярэднае дачыненьне і да нашага часу, калі беларуская мова пракладае сабе шлях да нармальнага існаваньня ўва ўсіх сфэрах жыцьця, у т.л. і ў рэлігійнай сфэры. Тым, хто супрацівіцца ўводу беларускае мовы ў багаслужбы, варта ведаць пра выказваньне нашага вялікага асьветніка Францішка Скарыны, які ў 1525 г. пісаў у прадмове да свайго віленскага выданьня «Апостала». «Апосталам жа і веруючым у Хрыста дадзены быў дух сьвяты ўсімі мовамі, якія ёсьць пад сонцам, праўду Божую, слова выратаваньня і царства нябеснае абвяшчаць».

**(«Беларус»)**

Кніга «Пратулін. Нараджэньне для неба слугаў Божых Вінцэнта Леванюка і 12 таварышаў» выйшла ў Выдавецтве Варшаўскай Архідыяцэзіі. Яе аўтар – а.Казімір Матвяюк, праўнук Канстантына Лукашука, забітага каля ўніяцкай цэркаўкі у Пратуліне 26 студзеня 1874 г.

У гэтай кнізе прадстаўленыя жыцьцярысы 13 кандыдатаў да блаславенства- мучанікаў падляскіх. Яны загінулі, баронячы ўніяцкі храм у Пратуліне (цяпер Польшча), зь якога царскія ўлады пры дапамозе казакаў спрабавалі зрабіць праваслаўную царкву. Кніга зьмяшчае таксама інфармацыю пра Грэка-Каталіцкую Царкву, яе перасьлед царскімі ўладамі. Аўтар кнігі зьяўляецца выкладчыкам Вышэйшай духоўнай сэмінарыі ў Седльцах.

«Катэхізм Каталіцкай Царквы», «Перайсьці парог надзеі» Яна Паўла II разам з «Катэхізмам біскупаў Францыі для дарослых належаць да ліку найбольш чытаных каталіцкіх кнігаў 1994 г. у Францыі.

***(KAI)***

У Расіі выйшла кніга вядомага этнографа Мурада Аджыева «Полынь половецкого поля». У ёй аўтар абвяргае стары міт савецкай гістарычнай навукі пра тое, што полаўцы былі дзікімі качэўнікамі і вызнавалі паганскія культы. На падставе архіўных дакумэнтаў і ў выніку археалягічных дасьледваньняў М. Аджыеў даводзіць, што гэты народ зьяўляўся ня толькі носьбітам арыгінальнай стэпавай культуры, але і вераваў у Ісуса Хрыста.

***(«Протестант»)***

### НАВІНЫ ВЫДАВЕЦТВА «УНІЯ»

У студзені г.г. выдадзеныя «Беларускі царкоўны каляндар на 1995 год» і Малебен за беларускі народ, падрыхтаваныя ў Лёндане а.Аляксандрам Надсанам.

Выдавецтва мае на продаж кнігу а.Гарошкі «Навука і рэлігія», Новыя Запаветы па-беларуску, Бібліі на розных мовах (у т.л. на царкоўна-славянскай), ілюстраваныя і дзіцячыя Бібліі (выдатны прэзэнт прыяцелю ці сваім дзецям і ўнукам!), катэхізмы, манаграфіі на рэлігійныя тэмат і г.д. Каталёг дасылаецца на запыт задарма. Парафіям прапануем дапамогу ў набыцьці па самых нізкіх на Беларусі коштах біблійнай літаратуры праз Біблійнае таварыства ў Менску. Працуем без камісійных!

220050 Менск, п/с224

**ЦАРКВА** грэка-каталіцкая газэта

Заснавальнікі:
Менскія грэка-каталіцкія парафіі

***Адрас рэдакцыі:***
211410 Полацак, вул. Навасёлаў, 70

*Галоўны рэдактар:*
ераманах Валеры Алексійчук.

Царкоўны кансультант:
протапрэсьвітар а. Ян Матусэвіч.

Над нумарам таксама працавалі:
Наталя Альхова (тэхн. рэдактар), Марыя Варанько, Ігар Іваноў, Сяржук Стасевіч.
Дзякуй за тэхнічную дапамогу Задзіночаньню беларускіх студэнтаў.

Выдавец: Выдавецтва «Унія» ЛВ 936
220050 Менск, п/с 224.

Друкарня
Падпісана ў друк 20.03.1995. Наклад

Падпіску на газэту прымае выдавецтва «Унія»: на Беларусі і ў Расіі да канца года - 2000 руб. бел./рас. Пераводы накіроўвайце на імя Ігара Іванова. У Польшчы - 2Zl, у іншых краінах - 6$, перасылка авіяпоштай дадаткова каштуе 1$. Па-за межы Беларусі газэта часова дасылаецца ў крэдыт, адрас прадстаўніка ў замежжы паведамім дадаткова. Падпіска для бібліятэкаў – задарма.